
Жыды беласточчыны→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ


Памяць якая дзеліць→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

№ 46 (3157) Год LXI | Беласток, 13 лістапада 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Прэзідэнт РП Анджэй Дуда ў Гайнаўцы

**Гайнаўку, у якой у вялікай колькасці жывуць беларусы праваслаўнага веравызнання і адбываецца Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі, наведваюць прэзідэнты Рэчы Паспалітай Польскай. 25 кастрычніка ў прыпушчанскі горад прыбыў прэзідэнт РП Анджэй Дуда, маліўся ў Свята-Троіцкім саборы, касцёле Узвышэння Святога Крыжа і ў парафіяльным доме за абедам спаткаўся з самаўрадаўцамі, каталіцкім і праваслаўным духавенствам. Пасля ў гарадскім амфітэатры адбылася адкрытая сустрэча прэзідэнта з жыхарамі Гайнаўкі і наваколля.**


Фота racyja.com

Прэзідэнта РП Анджэя Дуду запрасіў у Гайнаўку бургамістр горада Ежы Сірак. На спатканне прэзідэнта з жыхарамі Гайнаўшчыны ў амфітэатры на рэкламных матэрыялах запрашалі таксама гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк і войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. У Гайнаўцы прэзідэнта спачатку прывіталі згаданыя трое самаўрадаўцаў і мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, настаяцель Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы. Яны паказалі прэзідэнту сабор, у якім з васьмідзясятых гадоў адбываецца Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі і над якім зараз трымае патранат прэзідэнт Анджэй Дуда. Прэзідэнт на каленях маліўся ў гайнаўскім саборы, паставіў перад іканастасам свечкі і паслухаў царкоўны спеў. Пазней памаліўся ён у касцёле Узвышэння Святога Крыжа, дзе прыняў яго мясцовы пробашч ксёндз Юзаф Паскробка. У парафіяльным доме за абедам прэзідэнт размаўляў з бургамістрам Гайнаўкі Ежы Сіракам, старастам Гайнаўскага павета Міраславам Раманюком і войтамі гмін Гайнаўскага павета аб ахове Белавежскай пушчы і магчымасцях развіцця інфраструктуры ў рэгіёне. У спатканні прынялі ўдзел каталіцкае і праваслаўнае духавенства, падляшскі ваявода Богдан Пашкоўскі і іншыя запрошаныя госці.

Хаця было халоднае і дажджлівае надвор'е, у гарадскім амфітэатры ў Гайнаўцы сабралася многа людзей у розным узросце, якія выступленне прэзідэнта Анджэя Дуды ўспрымалі апладысментамі і праспявалі прэзідэнту «Сто лят». Прэзідэнта на сцэне прывітаў бургамістр Ежы Сірак, выступіў Духавы аркестр Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы. Прэзідэнт Анджэй Дуда сказаў да жыхароў Гайнаўкі і наваколля, што Гайнаўка — гэта прыклад таго, як добра суіснуюць у Польшчы розныя народы і розныя рэлігіі. У сваім выступленні прэзідэнт згадаў пра навучанне беларускай мове на Гайнаўшчыне і ўспомніў пра Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, які рознымі спосабамі займаецца прапагандаваннем беларускай мовы, культуры і традыцыі.

— Я сардэчна ўдзячны вам за тое, што вы на гэтай зямлі, якая традыцыйна звязана з Польшчай, разам жывяце і хоць найчасцей з'яўляецеся людзьмі розных веравызнанняў, аднак вы суседзі і браты, хоць прадстаўнікі розных народаў. Бо ў Гайнаўцы жывуць як палякі, так і беларусы. Вы развіваеце тут сваю культурную тоеснасць, сваю мову, — заявіў прэзідэнт Анджэй Дуда. — Вельмі цешуся, што тут у школах праводзяцца заняткі і на беларускай мове, што польская дзяржава спрыяе гэтаму і дзякуючы гэтаму дазваляе беларусам культываваць свае нацыянальныя традыцыі. Дзякую вам, што ўсе разам мы з'яўляемся грамадзянамі нашай цудоўнай Рэчы Паспалітай.

Выступаючы ў амфітэатры прэзідэнт гаварыў таксама пра ахову Белавежскай пушчы.

— Галасы, якія гавораць, што рэгіён Белавежскай пушчы трэба закрыць, бо тут нацыянальны парк, які патрабуе аховы, гэта тыя галасы, якія спіхваюць Гайнаўку і ўвесь павет да ролі свайго роду запаведніка. Так быць не мусіць. Безумоўна, пушчу трэба ахоўваць. Безумоўна, трэба шанаваць тое, што робіць кіраўніцтва Нацыянальнага парку, але нельга забываць пра тое, што тут жывуць людзі, якія не заўсёды ў змозе выжыць толькі з турызму. Гэта рэгіён, дзе мусіць праводзіцца нармальнае жыццё, — гаварыў прэзідэнт Анджэй Дуда і сказаў, што вялікай задачай для ўрада з'яўляецца развіццё дарожнай інфраструктуры на Падляшшы і на ўсім усходзе Польшчы. Прэзідэнт выявіў надзею, што ў Гайнаўку будзе пракладзены газаправод і стане жыхарам Гайнаўкі даступны шырокапалосны інтэрнэт.

Падчас візіту прэзідэнта ў Гайнаўку мінаў год ад перамогі партыі Права і справядлівасць на парламенцкіх выбарах і таму прэзідэнт Анджэй Дуда, які выводзіцца з гэтай партыі і балаціраваўся на прэзідэнцкіх выбарах як прадстаўнік гэтай партыі, гаварыў аб поспехах урада Права і справядлівасці пад кіраўніцтвам прэм'ерміністр Беаты Шыдла. Прэзідэнт Анджэй Дуда падышоў да жыхароў Гайнаўкі, каб паразмаўляць з імі непасрэдна. Між іншым маці дзетак-інвалідаў гаварылі пра невялікую пенсію для людзей, якія апякуюцца асобамі з абмежаваннямі. Старэйшая жанчына падзякавала прэзідэнту за тое, што зняў свой патранат над шэсцем у Гайнаўцы ў падтрымку выклятых жаўнераў, якое адбылося вясной гэтага года.

— Я вельмі хацела спаткацца з прэзідэнтам і падзякаваць яму за тое, што як быў мітынг у Гайнаўцы, то ён зрокся патранату над гэтым мітынгам. Падчас мітынгу, як я ўбачыла, што «Бурага» нясуць на простыні, то думала, што мне сэрца разарвецца, — сказала старэйшая жанчына, бацька якой быў забіты жаўнерамі атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўдонім «Буры».

Пасля сустрэчы ў гайнаўскім амфітэатры гайнаўяне выказваліся, што прэзідэнт Анджэй Дуда добра гаворыць наконт аховы Белавежскай пушчы і можа дапамажа вырашыць некаторыя праблемы Гайнаўкі і наваколля.

— У Гайнаўку прыязджалі ўжо прэзідэнты РП Аляксандр Кваснеўскі і Браніслаў Камароўскі. Падчас візіту прэзідэнта Анджэя Дуды ў Гайнаўцы была нагода запрэзентаваць яму Гайнаўку. Мы звярнулі ўвагу на тое, што рабілі і якія ў нас планы, а таксама папрасілі прэзідэнта падтрымаць нашы дзеянні ў напрамку гарманічнага развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы. Нам залежыць, каб Белавежская пушча была жывой і ёсць шанц выпрацаваць ураўнаважанае развіццё рэгіёна Белавежскай пушчы, з улікам аховы пушчы і інтарэсаў людзей, якія тут жывуць. Прэзідэнт у справе пушчы выказваўся згодна з патрабаваннямі мясцовага насельніцтва, ад даўжэйшага часу супрацоўнічаем з Міністэрствам асяроддзя і я думаю, што выпрацуем спосабы аховы Белавежскай пушчы з улікам аховы пушчы і інтарэсаў мясцовых людзей, — сказаў старшыня Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча», бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

— Прыезд прэзідэнта РП Анджэя Дуды ў Гайнаўку гэта для нас вылучэнне. Важна, што распачаў ён свой візіт ад нашай царквы, ад Свята-Троіцкага сабора, дзе Фестываль царкоўнай музыкі адбываецца цяпер пад патранатам прэзідэнта Анджэя Дуды. Прэзідэнт зацікавіўся гісторыяй нашага сабора і арганізаваным у ім Міжнародным фестывалем царкоўнай музыкі, аб чым коратка распавёў яму гайнаўскі дэкан, айцец Міхаіл Негярэвіч і запрасіў госця на бліжэйшы Фестываль царкоўнай музыкі. Нам важна, што прэзідэнт становача гаварыў аб праваслаўных беларусах, якія тут жывуць, звярнуў увагу на навучанне ў нас беларускай мове і заўважыў патрэбу захоўвання нашай нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці. Міла, што прэзідэнт гаварыў, каб гэта мясцовыя людзі рашалі аб будучыні Белавежскай пушчы. Думаю, што голас прэзідэнта Анджэя Дуды будзе ўзяты пад увагу ўрадам Польшчы, калі будуць вырашацца пытанні інвестыцый у нашым рэгіёне, — заявіў стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк.

— Мы прынялі прэзідэнта Анджэя Дуду ў адпаведнасці з нашай гасціннасцю, а наша размова з ім была вельмі прыемнай і аказалася, што прэзідэнт з'яўляецца адкрытым на нашы праблемы і прыхільным да нашых просьбаў. Ён прыхільна ставіцца да аховы Белавежскай пушчы, улічвае патрабаванні насельніцтва і самаўрадаў. Прэзідэнт бачыць развіццё нашага рэгіёна ў эканамічным супрацоўніцтве з Беларуссю. Для нас важна, што прэзідэнт публічна гаварыў аб мясцовых беларусах праваслаўнага веравызнання і пахваліў навучанне беларускай мове, нашай культуры і нашым традыцыям, а таксама ўспомніў Беларускі музей у Гайнаўцы. Прэзідэнт Анджэй Дуда прыхільны да планаў мадэрнізацыі дарожнай інфраструктуры і пракладкі ў Гайнаўку і Гайнаўскую гміну газапровода. Газ нам неабходны, каб суполка «Лаер» магла ў Трывежы збудаваць керамічны завод па вытворчасці цэглы. Газам хоча таксама карыстацца суполка, якая купіла тэрыторыю з жылымі блокамі ў Невядомым Бары ў Белавежскай пушчы і плануе там пабудаваць вялікі гасцінічна-апдачынковы комплекс. Польская газавая суполка просіць, каб мы зрабілі апытанне наконт запатрабавання на газ у Гайнаўцы і наваколных гмінах і мы такую інфармацыю збіраем. Падляшскі ваявода Богдан Пашкоўскі паінфармаваў, што пракладка газапровода прадбачваецца ў наваколле паўднёвай часткі нашага ваяводства. Гэты газавы шлях будзе пракладвацца далей на поўнач і мы прапануем, каб ад яго газ трубамі быў даведзены ў Гайнаўку і разведзены па гмінах нашага павета і ёсць шанц на здзяйсненне такой задумы. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак ад імя Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» перадаў прэзідэнту спісак нашых прапаноў і я лічу, што прэзідэнт Анджэй Дуда будзе дапамагаць у іх рэалізацыі, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Прэзідэнт РП Анджэй Дуда з Гайнаўкі ад'ехаў на чарговую сустрэчу, якая аказалася таксама шматлюднай і адбылася ў спартовай зале ў Сямятычах.

**Аляксей МАРОЗ**


9 770546 196000



# За нашу і вашу мову

Ну вось і запрацавала сістэма бязвізавага ўезду ў старажытнае Гродна і прылеглы раён Аўгустоўскага канала. Стужачкі перарэзаны, масты не спалены, а наладжаны, узнёслыя прамовы агучаны, буклеты раздадзены. Першыя соткі турыстаў з-за мяжы Еўрасаюза рушылі ў стары каралеўскі горад на агляд музейных асяродкаў, помнікаў архітэктуры, наведванне кавярняў, рэстаранаў ды іншых, цікавых для адпачынку душы і цела мясцін. Можна было б толькі радавацца — развіццё турызму гэта заўсёды добра. Толькі турызм — гэта не толькі эканамічная катэгорыя, не толькі прыбытак і развіццё інфраструктуры. Турызм — гэта яшчэ і культурны абмен, узаемаабагачэнне духоўнымі здабыткамі, спазнанне мовы і традыцый суседзяў. І вось тут у партнёраў вялікага турыстычнага праекта пакуль выходзіць пшык. Мой сябра і калега, беларус з Падляшша, наведаўшы адкрыты турыстычны цэнтр у Гродне па вуліцы Ажэшкі, быў непрыемна ўражаны, што ніякай інфармацыйнай прадукцыі па-беларуску там не ўбачыў. Назву цэнтра, праўда, хоць і з граматычнай памылкай, зрабілі нібыта па-беларуску, а вось ні буклетаў на мове тытульнай нацыі, ні пашпартоў турыста па-беларуску не будзе. Нешта ёсць па-польску, нешта па-англійску (і гэта абсалютна нармальна) яшчэ ёсць. А вось па-беларуску — як кажуць, ні-ні...

Зразумець гэтых бюракратаў у прынцыпе лёгка, яны не валодаюць ніякімі мовамі, акрамя рускай, ды і тая ў іх не руская, а канцылярска-савецкая — Чэхаў і Талстой на тым свеце варочаюцца. Усё, што яны могуць — паставіць на палічку якіх-небудзь матрошак і казаць, што гэта і ёсць наша культура. Для стварэння ж турыстычнай прывабнасці Гродна пільна патрэбныя гісторыкі-прафесіяналы, дасведчаныя краязнаўцы, таленавітыя мастакі ды музыкі. Але сапраўдных навукоўцаў даўно павыганялі з дзяржаўнага ўніверсітэта, звяртацца да прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый улады не будуць, творчыя людзі загнаныя ў андэграўнд, усюды існуюць „чорныя спісы”.

Яшчэ большае здзіўленне чакала беларусаў Падляшша, якія прыйшлі на адкрыццё аналагічнага пункту турыстычнай інфармацыі ў Беластоку. Выробленая польскім бокам інфармацыйная прадукцыя для беларускіх турыстаў выканана толькі па-руску. На натуральнае пытанне журналіста — чаму так зроблена, прадстаўнік Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Багдан Дыюк, не запнуўшыся, і, напэўна, не міргнуўшы вокам, адказаў, што руская мова — адна з дзяржаўных моў. Беларускі і польскі бок выканаў усё ў адпаведнасці з заканадаўствам. О, sancta simplicitas! — Святая прастасць! Не здзіўлюся, калі чыноўнікі з Беларусі прывезлі яшчэ чыноўнікам Падляшша ў прэзент русско-польские разговорники, дарыў жа іх кіраўнік папу рымскаму русский букварь! На ўсялякі выпадак прыгадаю і тым, і другім, што польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая жыла ў Гродне, па-расейску не размаўляла, і зусім не таму, што не любіла гэтую мову, а таму, што мела прынцыпы і павагу да мясцовага.

Беларусы нямала далі і старадаўняй Рэчы Паспалітай і новай Польшчы — ад ліцвіна Тадэвуша Касцюшкі да беларуса па паходжанні Ежы Папялушкі. Мелі сапраўдную салідарнасць і ад палякаў: варта прыгадаць тут прозвішчы такіх выдатных асоб, як Ежы Гедройц, Ян Новак-Езяранскі, з палітыкаў — Леха Качынскага. Беларуска-польская салідарнасць, зважаючы на няпростыя гістарычныя стасункі, асабліва на сумежжы, рэч дастаткова тонкая. Але яна ёсць. Успомню тут толькі некалькі момантаў. Прыкладам, калі на суд над журналістам Анджэем Пачобутам прыйшлі беларусы ў кашульках з двухмоўнымі напісамі „Wolność, Свабода”, і якая была агульная радасць, калі нашага калегу вызвалілі. Як беларусы прыйшлі разам з мясцовымі палякамі бараніць Дом саюза палякаў у Гродне. Ганаруся, што маю сяброў і знаёмых палякаў у Шчэціне, Беластоку, Кракаве, Вроцлаве, з якімі мы заўсёды супрацавалі на дзвюх мовах — польскай і беларускай.

На жаль, такой салідарнасці і разумення, асабліва з боку палітыкаў і чыноўнікаў, з часам становіцца менш. Таму за нашу і вашу мову!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Суседзі



Адзін мой знаёмы з суседняй вёскі кажа, што толькі тады, як запаволіў тэмп жыцця, знаходзіць час для развагі. Для роздуму. Штосьці ў гэтым ёсць на самой справе. Думка патрабуе клопату, задавання пытанняў, намаганняў у пошуках адказаў на іх. Адным словам: часу! Паміж мысленнем і часам ставіцца знак роўнасці. Неадназначны, але ўсё ж! Існуе лацінская максіма прыпісваная св. Бенедыкту Нурсійскаму, які дакладна вызначае «прыстойнага чалавека» — Ora et Labora. Маліся і працуй! Мысленне тут не пазначана, што не дзіўна, таму што рэальнасць у тэакратычным плане ўяўляецца як поўная, цалкам упарадкаваная і завершаная. Як жа лягчэй жывецца тым, хто даверыў гэтай канцэпцыі! Толькі каб яшчэ сусветны парадак залежаў толькі ад шчырай малітвы і прастаты чалавечай працы... На жаль, нават беглае назіранне выклікае шэраг інтуітыўных сумненняў датычных свету, заснаванага на самой малітве і працы. У сувязі з гэтым узнікае шмат расчараванняў. Справа ў тым, што мой «удумлівы» знаёмы страціў унутраны спакой і нават радасць жыцця. Турбуюць яго вельмі сур'ёзныя пытанні, на якія не мае адказу. Ён кажа, аднак, што ў мысленні знаходзіць сэнс жыцця. І кажа гэта з непахіснай перакананасцю. Так што суседзі з пушчанскай вёскі, дзе ён жыве, паджартоўваюць над ім. Яны лічаць яго лянівым паразітам і ставяць яму ў прыклад іншага, вельмі паважанага ўсімі чалавека. Той, у сваю чаргу, на нішто не мае часу. Так усім ён заняты! Ён не спыняецца з-за цяжкай працы, грукання, расколвання, распілоўкі і гэтак далей, то ўключання трактара, то перастаўлення аўтамабіля — усяго ў той жа самы час. Запросіш яго на гамонку: — Мне не хапае часу! На чарачку: — У мяне няма часу! І адразу ж гоніцца кудысьці, нешта перастаўляе, у штосьці грукоча. Можна сказаць, што другі Палац культуры будуе за плотам ці іншую вялікую будыніну. Заглядаеш, што там такога цікавага пад штыкетамі... а там нічога няма! Гэта значыць ёсць: асалавелы падворачак, прыбіральня, але ні куркі, ані кароўкі.

Гэты чалавек вельмі цесна звязаны з каталіцкім касцёлам — шчыра прымае ўдзел у нядзельных імшах, з энтузіязмам адзначае касцельныя і дзяржаўныя святы, развешваючы на высокай мачце адпаведны сцяг. І здараецца так, што ў той час два — і касцельны, і дзяржаўны. Дарэчы, гэта новы і вельмі настойлівы звычай на падляшскіх вёсках. Неабавязкова аднакультурных або аднаканфесійных. Прычым гэты чалавек не з'яўляецца празмерна рэлігійным, а польскую дзяржаву не вызначае выключна з ідэалагічнай паэтыкай ПіС. Таксама Грамадзянскую платформу не мае ў асаблівай пашане. Калі ён прадзяржаўны, дык у духу нацыянальнага каталіцызму. Калі паляк — дык католік. Калі ён рэлігійны, дык праз антураж крыжыка на сцяне ў кантрапункце іконцы Панны Марыі ў рамцы мінулагодняга павуціння. І перадкаляднага ды перадвелікоднага вэнджання мяса, вытрэпвання з пылу ходнічкаў, драўляных падлог вышароўвання. Але саміх свят і нядзель ён не любіць. Таму што гэта на самой справе час, калі рукі павінны быць вольныя ад працы, ногі ад бегу. Гэта пара галавы. Толькі што яго галава поўная пустога клекатання, грукатання, вуркатання слоў — у іх ілюзорнай функцыі думак. Самі па сабе яны мала што значаць, таму што яны не характарызуюцца самарэфлексіяй. Таму такія бяззместавыя. Гэта зусім не абазначае, што без сэнсу. Важнасць для іх дае аўтарызацыя. У мысленні заўсёды гаворка аб кагнітыўным абсягу, які — ці хочаце вы гэта ці не — у той жа час абмяжоўвае тыя ж веды, але і інспіруе іх. І тут дазвольце мне паставіць фундаментальнае пытанне: чаму мы хутчэй не ведаем нічога, чым ведаем усё? З гэтым пытаннем я пайшоў да аднаго і другога суседа. Першы патурбаваўся разам са мной. Я ведаю, гэта прагучала смешна, калі смешнымі з'яўляюцца такія пытанні, як: «Што перашкаджае ў парадку нашага свету? Чаму мы ўзаемна адзін для аднаго хутчэй ворагі, чым сябры? Дзе гэтага прычына?». Другі сусед не хацеў са мной гаварыць. Не меў часу!

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Супакой продкаў

Перадом кастрычніка і лістапада перанасычаны ўзаемапраніканнем светаў — рэальных з нерэальнымі, бачаных з соннымі, жывых з пазамагільнымі. Час восеньскіх дзядоў — рэзкі і балючы кліч душы і цела пра свае абмежаванні і вечныя вандраванні паміж Божым а зямным светамі. Час вострага адчування патрэбы супакою паміж памяццю аб продках і разуменнем сваёй імгненнасці зямнога прыстанішча. Перыяд восеньскіх дэпрэсій, псіхічных адчаяў, унутраных чалавечых крызісаў. Гэта таксама адзін з распазнавальных і адчувальных момантаў гэтай жа пары года. Нашы бялагізм і духоўная магія рэзка супадаюць ва ўзаемаканфрантацыйных выкліках. Ва ўсім гэтым касмічным землятрусе трэба адшукаць і захаваць нам нейкае разуменне прасторы часу і чалавечнага адчування прамінання. Выдатна ўсведамляюць гэты перыяд каталіцкія і праваслаўныя цэрквы, калі на працягу тыдня ў абедзвюх канфесіях адзначаюцца святкаванні Усіх святых, Дзень задушны, Бацькоўская памінальная субота, Дзмітрыя. Сукупнасць такой колькасці святаў, прывязаных да памяці аб продках і самавыцішэння — невыпадковая. Не ўцякаць і не забываць нам перад адышоўшымі блізкімі і роднымі. Памятаць і прыгадваць продкаў гэта яшчэ стаpазапаветны абавязак, ад якога нікуды не дзенешся. Калі накладзем на гэта нашу тысячагадовую паганскую палітру, то маем шанц у сакралізаванай хрысціянскай прасторы, з неад'емнай народнай абраднасцю, справіцца з духоўнымі выклікамі, ад якіх трашчаць нам галовы і ныюць душы.

У маім асабістым свеце кастрычніцка-лістападаўскі перадом быў менавіта такой вандроўкай паміж радасцю хрысцін, а адыходам блізкіх асоб у пазазямное вандраванне. У нашай сям'і нарадзіўся першы праўнук маіх бацькоў, а я магу ўжо сабе прыпісаць умоўнае званне хрышчонага дзеда, паколькі быў бацькам хрышчоным сына майго брата. Хрысціны гэта такая гасціна, дзе без асаблівай напругі можна спакойна паразмаўляць са сваімі роднымі і згадаць генеалагічныя сямейныя складанасці. Бо як ужо здаўна вядома, мы, беларусы Падляшша, усе з'яўляемся сваякамі. Хопіць толькі крыху пакорпацца і высветліць хто з кім і куды падаўся замуж ці ажаніўся, і адразу маем свайго чалавека ў чужой старане. Радасць і задавальненне спадарожнічалі майму вяртанню з сямейнай бяседы. Зразумела, добрая яда і пітво выдатна дапамагалі ў сямейных разборках.

Не мінуў тыдзень, як прыйшлося мне ехаць у сваю родную вёску на развітанне са сваім суседам, які быў таксама і бацькам хрышчоным майго брата, а пакойная ўжо ягоная жонка маёй хрышчонай мамай. Таму і я называў яго хрышчоным, бо так было ў нас прынята звяртацца ў пушчанскай вёсцы. Мая мама ў сваю чаргу хрысціла ў іхняй сям'і. Так, што людзі ў невялічкіх мясцовасцях радніліся з сабою як сямейнікі. На апошняе развітанне ў хаце пакойніка зышліся апошнія аўтахтоны-аднавяскоўцы, прыехалі сямейнікі і людзі з суседніх вёсак. Прыхадскі хор пяяў кранальныя песні пра зямное быццё, небыццё і вечны супакой. У настроі годнасці, але не крывадушнасці, усе людзі стварылі натуральную, сямейную царкву, у якой з павагай развіталіся не з ананімным прыхаджанінам, але са сваім чалавекам. Калі я ўслухоўваўся ў вельмі разумныя словы вярстоцкага настаяцеля, то перад маімі вачыма прасоўваліся ўсе тыя аднавяскоўцы, якіх я памятаў і праводзіў на вечны спачын. Бо ў пэўны момант Гасподзь выпісвае самы кароткі рэцэпт, найчасцей з дзвюма лічбамі, і заклікае да Божай аптэкі з той цыдулкай, ад якой няма ўжо зваротнай дарогі. Але застаецца напэўна памяць і ўсё тое, што распавядалася маім пакойным хрышчоным. Паходзіў ён з сям'і пушчанскіх гаёвых і лес быў для яго проста домам. Родная вёска дзядоў і бацькоў пакойнага зараз за мяжой. Быў ён сапраўдным, жывым сведкам гісторыі, а для мяне — прафесарам беларускіх, пушчанскіх спраў. І калі лістападаўскае надвор'е не спрыяе добраму настрою, то людская памяць пра адышоўшых з'яўляецца найлепшым абаронным імунітэтам нашага чалавецтва.

**Яўген ВАПА**

# Новы падручнік


Вольга Сянкевіч і Яланта Грыгарук




**3 лістапада адбылася ў Беластоку прэзентацыя падручніка „Родная літаратура" для другога класа агульнаадукацыйнага ліцэя, выдадзенай Фондам імя князя Канстанціна Астрожскага. Гэтакі ж падручнік для першага класа выйшаў у свет тры гады раней. Аўтаркай падручніка для першага класа з'яўляецца Вольга Сянкевіч, а для другога класа — Яланта Грыгарук. Рэдактаркай абодвух падручнікаў з'яўляецца Анна Радзюкевіч, а мастацка аформіла іх Анна Мішчук-Станкевіч. Выданні прафінансавала Міністэрства нацыянальнай адукацыі РП. Ранейшыя падручнікі па беларускай мове рыхтавала варшаўскае WSiP (Школьнае і педагагічнае выдавецтва).**

Анна Радзюкевіч, якая вяла мерапрыемства, адзначыла розніцы паміж ранейшымі і цяперашнімі аднеснымі падручнікамі. Менавіта, з Варшавы не так добра і шматгранна, як ад нас, відаць, што нам важнае. Мы гэтыя падручнікі прыблізілі да нашай культуры і нашай рэальнасці, увялі шмат зместу, які адносіцца да нашага жыцця. Прыблізілі знакавыя для нашай культуры постаці ў той перыяд, які падручнік разглядае, а апошні кранае XIX і пачатак XX стагоддзя: Міхал Баброўскі, Нестар Пераевой, род Кастыцэвічаў, род Брэнаў, Іосіф Ярашэвіч, Іосіф Лангбард, Аляксандр Гершун. За кожнай з гэтых асоб вялікія дасягненні. Яны звязаны з Віленскім універсітэтам, а варта прыгадаць, што ў пачатку XIX стагоддзя вучылася там тысяча трыста студэнтаў, а ў Оксфардзе — чатырыста. Гэтыя выхадцы з нашай зямлі былі не толькі студэнтамі, але і станавіліся выкладчыкамі Віленскага ўніверсітэта. Другая розніца заключаецца ў падборцы ілюстрацый да тэксту. Мы, як выдавец, пастараліся праехаць Беларусь і наведаць знакавыя месцы, месцы нараджэння знакамітых беларусаў, музеі, сфатаграфаваць іх і гэтыя выявы ўключыць у падручнікі дзеля папаўнення тэкставай інфармацыі. Анна Радзюкевіч падкрэсліла патрэбу паказання высокай культуры беларусаў, а не адно лапцяў ці іншага рукадзелля. Напрыклад, Іосіф Лангбард, ураджэнец Бельска-Падляшскага, стварыў архітэктурны воблік сучаснага цэнтра Мінска, м.інш. Дом урада, Дом афіцэраў ці Тэатр оперы і балета. Трэцяй адметнасцю новых падручнікаў з'яўляецца, дзякуючы Дарафею Фіёніку, паказанне абраднасці такою, якою яна на самой справе ёсць.

Яланта Грыгарук вельмі сціпленька вызначыла сваю аўтарскую ролю:

— Тут укладзена праца многіх людзей, — сказала, — асабліва спадарыні Анны Радзюкевіч, якая не толькі дала шмат якасных падказак, але і забяспечыла ілюстрацыйным матэрыялам. І спадарыня Анна Мішчук-Станкевіч з вялікай адказнасцю стварыла мастацкі воблік гэтага падручніка, руплівa падабрала для падручніка найлепшы дызайн. І спадар Дарафей Фіёнік раскрыў духоўнае аблічча нашага рэгіёна, нашу гісторыю, нашу абраднасць. Ад гэтага я сама пачала больш шанаваць тое, што ў нас ёсць. Бо ж магло ўсё гэта выглядаць інакш, магло быць нечага больш, нечага менш. Фармальна — так, я адчуваю сябе аўтаркай падручніка, але сюды ўкладзена шмат працы многіх іншых людзей.

Анна Радзюкевіч адзначыла гарманічнасць супрацоўніцтва ў калектыве, які стварыў падручнікі, эластычны падыход да іх ідэйнага напрамку ў паасобных аўтараў.

— Я цешуся, — дадала, — што мы працавалі ў такой групе, дзе кожны ўдзельнік быў запалонены тым, каб атрымалася як найлепш. Калі б мы, для прыкладу, жылі ў Беларусі, дзе падручнік выходзіць тыражом у, хай сабе, сто тысяч асобнікаў, дык і там такі падручнік таксама апраўдаўся б. Мы гэты падручнік складалі не для шматлікіх тысяч вучняў, не пра колькасць тут ішло, а пра якасць. Паасобныя аўтары вельмі скрупулёзна ставіліся да свайго працы. Асаблівa старанна паставілася да дызайну кніжкі спадарыня Анна Мішчук-Станкевіч. Я падглядала графічнае афармленне іншых падручнікаў, а яно там не надта акуратнае, а наш падручнік вельмі старанна дагледжаны.

Вольга Сянкевіч выказала задавальненне, што падручнікі моцна звязаны з Беласточчынай, нашай Малой Айчынай. Асабліва ж падручнік для першага класа ліцэя.

— Бо ж здараецца, што ў першы клас прыходзяць у нас вучні, якія не толькі мовы не ведаюць, але і мала ім вядома пра нашу культуру. А тут жа апынуліся тэксты і пра культурную ролю Супрасля, Заблудава ці Бельска, а гэта было раней мне вельмі патрэбнае. Гэтыя падручнікі прыгодныя таксама для заняткаў, якія праводзяць нашы катэхеты. Тут жа багаты і змест, і ілюстрацыі. А вокладкі гэтых падручнікаў аж заахвочваюць, каб заглянуць у іх змест.

Анна Радзюкевіч выказала радасць, што наша асяроддзе ў сілах ствараць такія падручнікі.

Дарафей Фіёнік паўтарыў толькі што сказанае, што ў нас ёсць вялікі патэнцыял. Бо ж, паралельна з прэзентаванымі тут кніжкамі, другі калектыў працуе над падручнікам па гісторыі беларускай меншасці ў Польшчы, які неўзабаве мае паказацца.

— Трэба радавацца таму, — сказаў, — што мы можам столькі ствараць, што мы выраслі на глебе Супрасля, Бельска ці Драгічына, што мы ў цэнтры Еўропы. Заахвочваю таксама настаўнікаў, каб карысталіся выданнямі нашага Музея малой айчыны па гісторыі культуры падляшскіх беларусаў. Мы выдалі тры кніжкі: „Места ў гісторыі падляшскіх беларусаў", „Бельскі сойм вялікі року Божага 1564" і „Бежанства". Зараз рыхтуем чарговую кнігу пра айца Канстанціна Байко. У гэтых выданнях папаўненне таго, што не ўвайшло ў падручнікі.

Анна Радзюкевіч выказала падзяку прысутнаму на мерапрыемстве дырэктару гайнаўскага белліцэя спадару Яўгену Сачко, бо менавіта з гэтым ліцэем звязаны абедзве аўтаркі падручнікаў. Да таго ж і чарговы настаўнік з гайнаўскага белліцэя, Ян Карчэўскі, рыхтуе падручнік для трэцяга класа, адно толькі прыйдзецца, верагодна, пачакаць з яго выпускам з прычыны надыходзячых змен у асветніцтве.

У сваю чаргу дырэктар Яўген Сачко падзякаваў усім тым, што ўзялі на сябе нялёгкую задачу стварэння вельмі патрэбных падручнікаў. А змены ў асвеце наступаюць так хутка, што цяжка паспяваць услед ім з падручнікамі. Вось маем падручнікі для трох класаў ліцэя, а неўзабаве спатрэбіцца і падручнік для чацвёртага класа. А вось існуючыя падручнікі для гімназій могуць аказацца непатрэбнымі і выкананая над імі праца можа аказацца Сізіфавай, калі ўсё будзе няспынна змяняцца.

І дырэктар Яўген Сачко, і рэдактар Анна Радзюкевіч выказалі патрэбу азнаямлення ўсіх настаўнікаў беларускай мовы і катэхетаў з усімі нашымі выданнямі для школ, напрыклад з выданнямі Таварыства АБ-БА. Анна Радзюкевіч падкрэсліла яшчэ ініцыятыўную ролю Яўгена Чыквіна, які менавіта запрапанаваў ёй апрацаванне патрэбных у беларускіх школах падручнікаў. Гэта было недзе каля дзесяці гадоў таму. Тады мы выдалі некалькі падручнікаў з Тамарай Русачык.


Ян Карчэўскі, Анна Каліноўская, Яўген Сачко і Яўген Чыквін


Анна Радзюкевіч

У сваю чаргу былы дэпутат Сейма Яўген Чыквін прызнаўся, што яму было няёмка, калі ў Міністэрстве ўсё яго далікатна ў гэтым напрамку накіроўвалі.

— І я дайшоў да вываду, — сказаў, — што сур'ёзна да гэтай задачы могуць паставіцца толькі жанчыны; з гэтага і пачатковае супрацоўніцтва з Тамарай Русачык. І трэба таксама разважыць магчымасць увядзення ў наша навучанне ведаў пра нашу мясцовую гаворку, бо яна ж таксама каштоўная.

Пахваліў ён яшчэ раз спадарыню Анну Мішчук-Станкевіч за выдатны дызайн, бо гэтыя кнігі аж хочацца ўзяць у рукі. Прыгадаў ён таксама пра з'яву стыгматызацыі, якая паніжае нашу самаацэнку, а вось якасць гэтых падручнікаў дадае нашай грамадскасці так патрэбны гонар.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




## Нашы пастаянныя чытачкі

Пра некаторыя пастаянныя чытачкі я намерваўся ўжо раней напісаць. Дык цяпер выбраў гэтую тэму і сабраўся напісаць. Я пасля трыццаці гадоў вярнуўся жыць у бацькоўскі дом у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны і адразу шукаў сярод тутэйшых жыхароў людзей, якім наш беларускі штотыднёвік дарагі. Пачаў купляць і прывозіць нашу беларускую газету з Беластока, з Гайнаўкі і з Нараўкі аднавяскоўцам і жыхарам суседніх вёсак. Заахвочваў іх да чытання. Не заўсёды знаходзіў зразуменне і падтрымку для сваіх намаганняў. Цешыла мяне тое, што былі гэта рэдкія выпадкі.

Як гэта бывае, не заўсёды трапна знаходзіў я верных чытачоў нашага роднага часопіса. На гэта трэба было крыху часу, каб быць упэўненым, што верных чытачоў «Нівы» знайшоў. Яны былі (шмат іх было перш за ўсё сярод былых нашых ніўскіх карэспандэнтаў, сярод вучняў пачатковых і сярэдніх школ, сярод працуючых дзяўчат, але і сярод старэйшых, у тым ліку асабліва жанчын) і яны ёсць цяпер.

Пісаў я ў «Ніву» пра некаторых нашых пастаянных падпісчыкаў, між іншым, з Альхоўкі, са Старога Ляўкова, з Лешукоў, з Плянты, з Семяноўкі і са Свінароў. Шкада, што іх усё менш, яны адыходзяць ад нас, паміраюць. Пра іх інфармуе мяне лістаноша, бо я не забываю апытаць яго пра здароўе ніўскіх чытачоў.

Зараз пра пастаянных чытачак «Нівы» з Плянты. Іх дзве: Валянціна Самойлік і Вера Клімюк. Я прывожу ім наш штотыднёвік дадому. Спадарыня Валянціна была настаўніцай, зараз на пенсіі, ёй 87 гадоў. «Ніву» купляе ў мяне чатырнаццаты год. Апошні 44 нумар ад 30 кастрычніка г.г. купіла ў нядзелю, 30 кастрыніка. Адразу пацікавілася, як прайшоў «Паэтычны вечар у Ляўкове». Прачытала гэты цікавы артыкул пра паэтаў з Арлянскай і Нараўчанскай гмін Аляксандра Вярбіцкага і пахваліла аўтара. Запэўніла мяне, што прачытае мае расказы пад загалоўкамі «Шляхецкі дом пападае ў руіну» і «Як Гапка па грыбы хадзіла». Яна любіць чытаць, як сказала, перш за ўсё «сваіх», вядомых ёй аўтараў. Я і рэдактар Вярбіцкі з тае ж Нараўчанскай гміны ды з суседніх вёсак.

Спадарыня Вера не ходзіць, яна на калясцы. Любіць чытаць «Ніву». І я ёй прывожу. Ганарыцца яна тым, што і пра яе сёлета газета пісала. Быў гэта мой допіс «Вера і яе пеўнікі і яе курачкі» са здымкам яшчэ перад праваслаўным Вялікаднем («Ніва» № 17 ад 24 красавіка 2016 года). Спадарыні Веры я не застаў дома. У апошнюю нядзелю кастрычніка сын павёз яе на машыне ў Міхалова. Я ведаю, што калі яна адтуль вернецца, патэлефануе і раскажа, што яе асабліва зацікавіла ў апошнім кастрычніцкім нумары «Нівы».

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ЕВА КРЫХНЯК пра «мёртвых» яўрэяў Беласточчыны і ахвяры Халакосту



Фота Улі Шубзды

**Кніжка Евы Крыхняк «Асвета і культура яўрэяў Беласточчыны міжваеннага перыяду і яе знішчэнне ў час Другой сусветнай вайны» гэта першае такое выданне, у якім прысвечана шмат месца яўрэйскай абшчыне Саколкі і ваколіц. Кніга змяшчае багаты ілюстрацыйны матэрыял. Надзвычай каштоўным з'яўляецца выкарыстанне шырокага выбару крыніц, якімі пакарыстаюцца як прафесійныя гісторыкі, так і аматары гісторыі Саколкі. Ева Крыхняк — ураджэнка Саколкі, бібліятэкарка, кніжку выдала на ўласныя грошы. Аднак не гэта было раздражняльным, толькі абыякавасць яўрэйскай абшчыны Беластока, якая ўспрыняла кніжку мёртвай цішай.**

**— Няшмат людзей у Саколцы, можна сказаць што Вы адна, якія так грунтоўна займаюцца тэмай мясцовых яўрэяў. Скуль у Вас зацікаўленасць гэтай тэмай?**

— Можна сказаць, што з самога маленства. Хаця не было ўжо тады маёй бабулі, маці вельмі часта расказвала як яна, будучы яшчэ маладой дзяўчынай, перад Другой сусветнай вайной пільнавала яўрэйскіх дзяцей. Бабуля вельмі іх палюбіла і вельмі часта ў размовах з маці ўспамінала адну яўрэйскую сям'ю. І ўжо з самога маленства ўва мне склаўся такі вобраз, што яўрэі былі добрымі людзьмі, якія з пашанай ставіліся да іншых. Будучы дзяўчынкай, у бібліятэцы Пачатковай школы № 1 у Саколцы, у якой сёння працую, удавалася мне знаходзіць кніжкі пра Другую сусветную вайну. Асабліва я шукала інфармацыі пра жыццё яўрэяў. Так што можна сказаць, што гэтая тэма заўсёды ўва мне сядзела.

**— Таксама Вы з'яўляецеся ініцыяткай помніка ў гонар усіх забітых яўрэяў Саколкі і ваколіц, а таксама першай, якая занялася справай упарадкавання сакольскага кіркута!**

— Два гады таму ў верасні прайшло афіцыйнае адкрыццё помніка ў гонар памардаваных яўрэяў. Ён стаіць пры Комплексе інтэграцыйных школ — гэта вельмі добрае месца, таму што плошча манітараваная, ніхто не будзе пырскаў на яго спрэем, а таксама па такой прычыне, што школа стаіць на месцы былой сінагогі. Сёння няма ўва мне ўжо жалю да ўлад горада, якія не падтрымалі ініцыятывы. Яна поўнасцю была рэалізавана на сродкі яўрэйкі з ЗША, бацькі якой жылі ў Саколцы. Горад абмяжаваўся да вылучэння ўчастка зямлі пад помнік, што было папярэджанае дзясяткамі маіх візіт і дагавораў з уладальнікамі. Цяпер змагаюся за ўказальнік, які дапамагаў бы турыстам трапіць на яўрэйскі могільнік. Наведвальнікі нашага гарадка не толькі прыязджаюць дзеля цуду ў касцёле св. Антонія, але таксама хочуць пабачыць іншыя месцы. А па яўрэйскім могільніку ў Саколцы можна хадзіць дзеля рэлаксацыі, там несамавітая энергія...

**— У Вас яўрэйскіх карані?**

— Не. Але я вельмі моцна з імі ідэнтыфікуюся.

**— Здаецца, што цяжка было б Вам жыць у Саколцы як яўрэйцы. Хаця няма ўжо ў гарадку яўрэяў, антысемітызм жыве.**

— Прыкладам можа тут быць мая сяброўка, не буду называць яе імя і прозвішча, якая па жаночай лініі яўрэйка. Яна пачала цікавіцца сваёй мінуўшчынай, даследаваць і да гэтага прызнавацца. Сапраўды, некаторыя адвярнуліся ад яе. Таму на прэм'еры маёй кнігі ў Публічнай бібліятэцы ў Саколцы я адмыслова зачытала два пісьмы жыхара Беластока, які піша пра міжсуседскія адносіны. Ён іх ацаніў як добрыя, а нават вельмі добрыя. Аднак успаміны іншага майго суразмоўцы, які нарадзіўся ў Саколцы і тут узрастаў, не былі ўжо такія. Той адкрыта пісаў аб антысемітызме і непрыхільнасці да яўрэяў. Ну, хаця я сама каталічка, аднак складваецца высnова, што меў ён на ўвазе непрыхільнасць з боку каталікоў. Ён не пісаў, не гаварыў нічога аб праваслаўных ці татарах, яны былі збоку. Не надта «хрысціянскае стаўленне» выходзіла ад католікаў.

**— Бачу, што Вас гэта даволі шакiравала. А што яшчэ было такім здзіўляючым, якія інфармацыі наконт адносін Вас бянтэжылі ў час збірання матэрыялаў для кніжкі?**

— Удалося мне знайсці ўспаміны яўрэяў, напісаныя на мове ідыш. Яны ніколі не дачакаліся перакладу, а шкада. Магчыма таму, што яны кідаюць такое дрэннае святло на жыхароў Саколкі. Яны там апісваюць спробу вяртання пасля вайны ў родны гарадок, у свае дамы. Гэта вельмі крыўдлівая тэма. Менавіта ва ўспамінах апісаная гісторыя канкрэтнай сям'і, якая пасля гадоў бадзяння вяртаецца ў свой родны дом, які аказваецца ўжо заняты. Гэта вельмі кранальнае апісанне, якое паказвае хамства і нахабнасць патэнцыяльнага Кавальскага. Такія паводзіны былі для яўрэяў чытэльнай інфармацыяй: «Мы вас тут не хочам». Падобна справа маецца ў сувязі з мясцовай сінагогай, якая знішчана, але ўсё такі перачакала перыяд вайны. Толькі ў кулуарах можна даведацца, што гэта самі сакальчане разабралі святыню.

**— Сакольскія яўрэі мелі напэўна вялікі ўплыў на развіццё гандлю ў Саколцы. А як яны ўплывалі на культурнае жыццё гарадка?**

— Збіраючы матэрыялы для кніжкі, я сама даведалася, што ў сакольскіх яўрэяў на вельмі высокім узроўні была асвета, а таксама развітая культура чытальніцтва. На сваю невялікую абшчыну мелі яны тры бібліятэкі. Гэтая школа (Пачатковая школа № 1 у Саколцы) была пабудавана ў 1933 годзе. Дзеля таго завязаўся камітэт, у склад якога ўваходзілі і яўрэі, дзеці якіх таксама тут вучыліся. Таксама варта ўспомніць, што перад вайною віцэ-бургамістрам Саколкі быў яўрэй.

**— Напэўна ўдалося Вам гэтай кніжкай наблізіць сакальчанам свайго даваеннага суседа. Яўрэі складалі амаль палову ўсіх жыхароў Саколкі. Як сённяшнія сакальчане прынялі Вашу кніжку?**

— Мне цяжка пра гэта гаварыць. Я вельмі эмацыйна падыходжу да кніжкі. Мне вельмі залежала, каб яна выйшла, каб трапіла да як найбольшай колькасці чытачоў. У Саколцы... людзі абыякавыя. Нават стараста, які абяцаў падтрымаць і памагчы выдаць кніжку, канчаткова сказаў, што няма грошай на такія мэты. Таму я падняла ўласныя ашчаднасці, каб мая дзесяцігадовая праца, вядома, з перапынкамі, не была дарэмнай. Але не ідзе тут толькі пра фінансы. Маючы на ўвазе такую чыстую людскую зычлівасць, адзінкі павіншавалі мяне з выданнем.

**— Прадстаўнікі яўрэйскай гміны ў Беластоку не зацікавіліся кніжкай?**

— Звярталася я да іх неаднаразова. Нават асмелілася сказаць, што больш падтрымліваюць мяне сябры з Ізраіля ці ЗША, чым з Беластока. Менавіта дачка сакольскіх яўрэяў, якая жыве ў Амерыцы, вырашыла прафінансаваць пераклад маёй кніжкі на англійскую мову

**— Дзякую за размову.**

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**




# Вершалінскія «Дзяды»

Ці магчыма ўявіць сабе Міцкевічавы «Дзяды» як баладу, эпапею ці хаця б апавяданне? Адназначна не. Якую ролю адыграў Міцкевіч у паўстанні гэтай, безумоўна, архідрамы? Па-мойму, Міцкевіч — гэта другое ўвасабленне медыума, авалоданага чарамі першага — гусляра, майстра дзядоўскага абраду. Адзін узбунтаваны супраць царквы, другі — супраць улад. Духоўныя масты, якія будуюць пры дапамозе магічнага сеанса, аднолькава абмінаюць перашкоды, аднолькава спалучаюць зняволены, ашуканы народ. Пра Дзяды і гусляроў забываюць, але яны ніколі не паміраюць: у 1901 годзе Выспянскі стварае першую, цэласную пастаноўку «Дзядоў», а затым паказвае сваё «Вызваленне» — драму ў трох актах, з Міцкевічавым Конрадам. У 1968 годзе здымаюць з афішы Народнага тэатра ў Варшаве «Дзяды» ў пастаноўцы Казімежа Дэймка, што прычыніцца да студэнцкіх пратэстаў і Сакавіка-68. Да «Дзядоў» у 1973 годзе вяртаецца Конрад Свінарскі. Тадэвуш Канвіцкі распавядае пра Дзяды ў «Ляве». Затым у 2014 годзе паяўляюцца познаньскія «Дзяды» Радаслава Рыхціка. У Нацыянальным тэатры ставіць іх Эймунтас Някрошус. Павел Пасіні выходзіць з «Дзядамі» да гледачоў Тэатра лялькі і акцёра ў Аполі (2015), а нават здабывае Брэсцкую крэпасць.

Сёлета восеньскія Дзяды ўпершыню адзначыў Тэатр Вершалін. Больш таго, пастаноўка Пятра Тамашука спалучылася са святкаваннем XXV гадавіны заснавання гэтага тэатра. Рэжысёр-пастаноўшчык і гусляр Пётр Тамашук следам Паўла Пасіні і Эймунтаса Някрошуса пайшоў у тэатр, пазбаўлены рацыяналізацыі. Вярнуўся да самага пачатку, да магічнага, эмацыянальнага, часам страшнага, часам смешнага, абраду.

«Дзяды з'яўляюцца квазі-сакральным, міфалагізаваным перформансам польскай культуры... Гэта сінкрэтычны твор, які спалучае рытуальны спірытычны сеанс з каталіцкімі экзарцызмамі», — сцвярджае на старонках штотыднёвіка «Tygodnik Powszechny» праф. Лешак Калянкевіч — навуковы кіраўнік сёлетняга фестывалю «Dziady. Recykling».

Тамашук не ўпісваецца ў гэтую плынь. Зусім не ўяўляю сабе гэтага спектакля ў рэпертуары згаданага фестывалю. Тамашук адназначна акрэслівае беларускі характар Дзядоў. Не знойдзеш тут ні кроплі хрэстаматыйнага паланафільства ці месіянізму. Крыжы — асноўная частка адмысловага сцэнічнага афармлення — выключна з праваслаўнай папярочкай. Такі крыж блішчыць на грудзях ксяндза — Дар'юша Матыса. Такім жа пазначана дамінуючая над сцэнай ікона Божай Маці, з-пад якой выліваецца доўгі дыван у колерах восеньскай зямлі — абажаных ткачыхамі беларуска-літоўскага памежжа. Свойскасці пастаноўцы дабаўляе архаічная ліра ў руках Адрыяна Якуця-Лукашэвіча і дзядоўская песня Густава (у ролі Рафал Гансоўскі). У завяршальнай сцэне апантаны дзядоўскімі духамі бацюшка лямантуе «Богородице дево, радуйся», быццам з акафіста ў суседняй Супрасльскай лаўры. Ёсць таксама вокны, шмат старых большых і меншых акон, праз якія паводле традыцыі ўваходзяць у хату душы на дзядоўскую вячэру. «Дзяды» Тамашука гэта дзядоўская песня пра любоў. Душа прыходзіць зусім не да гэтага, які яе кліча. Яна турбуе, быццам нячыстае сумленне. Густаў, малады жаўнер, самагубец вінаваціць ксяндза-настаўніка за тое, што разбудзіў у ім любоў да навукі, літаратуры, а ў выніку да жанчыны з заручальным пярсцёнкам. Вялікая, нешчаслівая любоў, якой ні вадой не разліць, ні нажом не прабіць. Любоў нават без узаемнасці, горкая як палын, паніжальная, не ведае смерці. «(...) бо каханне, як смерць — моцнае; рэўнасць, як пекла — лютая; стрэлы яго — стрэлы вогненныя; яно — полымя непагаснае. Вялікія воды не могуць любві патушыць і рэкі яе не затопяць» («Найвышэйшая песня Саламонава», 8, 6-7; пераклад Васіля Сёмухі).

«Вярні нам Дзяды!» — загадвае ксяндзу няшчаснік, які блукае па лепшым свеце. Яны важнейшыя за дым царкоўнага кадзіла і пахавальныя шэсці. Няхай кропля малака, крошка хлеба, пакладзеныя на магілу, заступяць самыя багатыя хаўтуры, а адна свечка, запаленая на той жа магіле — ззяючы свечкамі царкоўны падсвечнік.

Дзяды вярнуліся ў Вершалін.

Іаанна ЧАБАН

# „Бардаўская восень” завітала ў Нараўку



27 кастрычніка гэтага года ў кіназале Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся канцэрт у рамках Фестывалю беларускай спяванай паэзіі і аўтарскай песні „Бардаўская восень”. Мерапрыемства адкрылі дырэктарка ГАК Галена Рэент і арганізатар фестывалю Ігар Лукашук. На сцэне выступіў вядомы бард Зміцер Вайцюшкевіч (на здымку).

Выступ яго спадабаўся ўсім слухачам. Спяваў ён вясёлыя і жартаўлівыя песні, між іншым, песню „Ты залаты”, „Не магу пра вас забыцца”, „Гаспадыня” і „Бывайце здаровы” ды на біс выканаў філасофскую песню пра старасць.

Пасля выступлення барда сцэнай завалодаў моладзевы вакальна-інструментальны гурт „Navi” з Мінска ў складзе трох выканаўцаў. У дуэце спявалі Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка. У іх прыемныя галасы і цікавая своеасаблівая манера выканання песень. Песні дуэта былі пра каханне, прагу жыцця на гэтым цудоўным белым свеце, пра дабрыню (мы павінны быць удзячны іншым за кожны сонечны ранак ды за тое, што ёсць дзе спаць і дзе паесці, за цяпло маёй рукі каля тваёй). Цікава прагучалі песні „Плакалі вятры” і „Абдымі мяне і крышку памаўчы”. На біс гурт выканаў песню „Стэфка”.

Пасля канцэрта можна было купіць пласцінкі з запісамі песень выступоўцаў ды пагутарыць з імі пры каве і піражным.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Нараўчанская гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў і гэта 21% тэрыторыі Гайнаўскага павета. Яна мяжуе з Белавежскай, Гайнаўскай, Нарваўскай і Міхалоўскай гмінамі ды з Рэспублікай Беларусь. У ёй сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 25% плошчы гміны і лясы ажно 65%.

У Нараўчанскай гміне ўсё менш і менш жыхароў. Зараз яна налічвае 3 745 жыхароў, у тым ліку 3 000 беларусаў. Вялікіх вёсак 23. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 878 чалавек. У гміне ёсць іншыя даволі вялікія вёскі: у Семяноўцы пражывае 401 асоба, у Старым Ляўкове — 332, у Новым Ляўкове — 207, у Скупаве — 191, у Міклашэве — 170, у Плянце — 149, у Тарнопалі — 127, у Лешуках — 113 і ў Альхоўцы — 103.

Ніжэй сотні налічваюць вёскі Ахрымы — 94, Свінароі — 87, Заблотчына — 68, Стачок — 72, Старое Масева — 64, Гушчэвіна — 60, Баб'я Гара — 56, Міхнаўка — 52, Лесна — 51, Новая Лука і Янова — па 46, Новае Масева — 36, Грушкі — 33, Падляўкова — 32, Гарадзіска — 31, Пасекі — 29, Капітаншчына — 29, Слабодка — 25 і Мінкоўка — 19.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 18 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Новіны і Парослае — па 12, Церамкі — 11, Забрады — 9, Замоша — 6, Баравыя і Ланчына — па 6 ды ўсяго па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае. У Лазовае ў свой бацькоўскі дом вярнуўся жыць сын. І так цяпер тут на ўскраіне сасновага лесу пражывае двух самотных мужчын. У аднаго з іх жонка адышла, а ў другога памерла.

Паменшала жыхароў у Альхоўцы, Ахрымах, Забрадах, Замошы, Капітаншчыне, Лешуках (тут на 7 чалавек), Нараўцы — на 17, у Новінах, Падляўкове, Парослым, Пасеках, Плянце, Свінароях і Старым Ляўкове. На 2, 3 і 4 жыхары пабольшала ў Стачку, Гушчэвіне, Новай Луцэ, Слабодцы і Янове.

У Нараўчанскай гміне шчыльнасць насельніцтва складае 12 чалавек на квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадае 97 жанчын. Лік дзяцей усё змяншаецца. Паўналетнія юнакі і дзяўчаты ў пошуках працы выязджаюць у Бельгію, Галандыю, Вялікабрытанію, Швецыю, Фінляндыю, Нямеччыну і ў Іспанію. Многія з іх там засноўваюць сем'і і ўжо не вяртаюцца ў свае родныя вёскі. А тыя выміраюць.

У гэтым годзе дзесяць пар святкавала 50-годдзе шлюбнага жыцця. Медалі — яны ўзнагарода ад прэзідэнта РП — атрымалі Ян і Марыя Адамовічы са Скупава, Яўген і Марта Харкевічы ды Юрый і Ніна Кунцэвічы з Лешукоў, Ян і Зося Каліноўскія з Нараўкі, Васіль і Марыя Мацкевічы з Баравых, Эдвард і Яніна Малышкі з Лесней, Ян і Ірэна Скепкі з Гушчэвіны, Ян і Ірэна Скепкі з Семяноўкі, Андрэй і Марыя Спікоўскія з Забрадоў ды Юзэф і Ядвіга Сваткі з Тарнопаля. Ім з гэтай нагоды жадаю ўсяго найлепшага, а перш-наперш добрага здароўя і чарговых юбілеяў.

# Па зялёнкі!



У мяшаных лясах з перавагай сасновых дрэў у ваколіцы Лазовага, Новін і Тарнопаля Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета выраслі апошнія сёлетнія грыбы — зялёнкі і г.зв. валовыя языкі. Сёлета ўсе яны здаровыя, не чарвівыя. Некаторыя грыбнікі збіраюць апенькі на пнях дрэў у лесе каля Кардона (гэта непадалёк ад Лешукоў).

На здымку: Марыя Целушэцкая з Новага Ляўкова з прыгожай зялёнкай, знойдзенай у Лазоўскім лесе 27 кастрычніка г.г.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


# Перш крок ужо зроблены!

Лістападаўскія дні натхняюць да роздумаў і спакою. Здаецца нам, што ўсе аднагодкі аднолькавыя, што жывуць аднымі справамі. Аднак паміж паралельнымі класамі можам прыкмеціць вялікія розніцы. Усё залежыць ад тэмпераменту вучняў, ад мэт, якія сабе ставяць, і ад поспехаў.

Вось, гімназісты з першага «а» класа ўразілі дастойнай засяроджанасцю. Здавалася, яны лавілі кожнае слоўца, кожны жэст. Хоць за акном панаваў сонны ранак, яны адкрываліся з кожнай хвілінай, ставілі пытанні:

— З якога часу, — пыталіся гімназісты, — у нас сталі чытаць і пісаць па-беларуску?

— Па-беларуску чыталі і пісалі ўжо ў пачатку XX стагоддзя, калі стваралася новая літаратурная беларуская мова. Бельск быў вельмі актыўны ў гэтым працэсе. Тут было многа адукаваных людзей. Прыкладаў не трэба далёка шукаць. Вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы адыграў Яраслаў Кастыцэвіч, патрон школы. Ён стварыў школу для беларусаў, каб яны вывучалі і развівалі родную мову. На сённяшні дзень Бельск мае чым ганарыцца. Тут жывуць пісьменнікі еўрапейскага маштабу, а іх беларускія творы перакладзены на англійскую, нямецкую, польскую мовы...





Апошняя справа здалася амаль касмічнай. Гэта быў штуршок і прапанова на чарговыя ўрокі і сустрэчы. Не толькі для пачаткоўцаў. У першы клас гімназіі, што ў бельскай «тройцы», заўсёды прыходзяць новыя вучні. Зараз у першым «а» чатырох навічкоў. Прыйшлі з іншых бельскіх школ, звабленыя поспехамі і атмасферай школы. Тут на першым месцы здаровая канкурэнцыя, але не менш важнае сяброўства. Калі ёсць сяброўства, ёсць супольныя захапленні. А беларуская мова — гэта шанс на новы досвед. Першы крок ужо зроблены. Новыя сябры заявілі, што ўжо разумеюць па-беларуску.

— Бывае, што з часам яны становяцца найлепшымі вучнямі і найбольшымі энтузіястамі, — адзначае Валянціна Бабулевіч, настаўніца роднай мовы.

У класе ўжо ідзе падрыхтоўка да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Будзе нагода, каб пашырыць веды, падцягнуцца ў мове і нешта напісаць па-беларуску. Спачатку на фейсбуку, абмяняцца нейкай навіной з сябрамі.

**ЗОРКА,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

*Міра ЛУКША*

## Цёрн

*Куст ці дрэўца*
*калючае,*
*смачны плод,*
*ды дотык балючы,*
*чорна-сіні*
*з шызым налётам,*
*карміў тысячы год*
*сціплу бядоту.*
*Ружакветны. Белы цвет,*
*перад лістом развінецца,*
*як прышчэпу для сліў*
*зімаўстойлівы цёрн*
*садаводам бярэцца.*
*У Чырвоную кнігу ён*
*у нас занесены,*
*слаўны ў міфах ён*
*і ў песнях.*
*Кроў ахвяры і голас яе*
*праз яго прамаўляе.*
*Цёрн вянцом чало*
*пакутніка асланяе.*
*І расце, і гарыць ён,*
*ды не згарае —*
*куст біблейскі*
*і тутэйшы куст,*
*у нашым краі.*

# Спектакль і фільм пра вяселле

Як пазнаёміцца з народнымі абрадамі і традыцыямі?

Дваццаць трэцяга кастрычніка ў Гмінным культурным цэнтры ў Дубінах можна было пабачыць фільм і спектакль «Даўняе, традыцыйнае вяселле». Гэта была частка праекта «Дубінская культурная алімпіяда». У гэтым прадстаўленні, якое ставілася на падляшскім дыялекце (па-свойму), выступілі вясковыя дзеці і моладзь з Гайнаўскай гміны. Сцэнарый напісала Іаанна Троц. Яна два тыдні рыхтавала моладзь да выступлення. З малодшымі пашыла лялькі, якія, вядома, паявіліся на сцэне.

Фільм паўстаў у час майстар-класаў, якія павёў Дамінік Салавей. Сцэнарый склалі апавяданні старэйшых людзей з падгайнаўскіх вёсак. Яны расказалі як калісь выглядала вяселле. На прэм'еры спектакля можна было з'есці традыцыйныя падляшскія стравы.

**Эва ІВАНЮК, КШ № 3 у Гайнаўцы**

## УВАГА КОНКУРС! № 46-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 26 лістапада 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Я прыродны дрывасек,**
**Сёння зноў асінку ссек.**
**Пойдзе ўся кара на ежу,**
**Ствол на часткі я парэжу.**
**У раку насіць іх буду —**
**Пабудую з іх запруду.**
**Б....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 43: лесвіца (інакш: драбіна).**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Вікторыя Гаць і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Я ведаю ўсе песні з «Народнага альбома»

З Клаўдыяй Галінскай — *вучаніцай беластоцкай гімназіі № 7, якая выступіла ў культавым музычным праекце «Народны альбом».*

**Агата Усціновіч, Агнешка Зданоўская:** — ***Клаўдыя, як Ты папала ў «Народны альбом»?***

**Клаўдыя Галінская:** — Я была на рэпетыцыях «Народнага альбома». Адна з дзяўчат у апошняй хвіліне захварэла. Аказалася, што магу выступіць замест яе. Пасля я хадзіла на рэпетыцыі і была вельмі шчаслівай.

**АУ, АЗ:** — ***Ці раней Ты ўжо выступала на сцэне?***

**КГ:** — Я спявала ўжо ў музычным спектаклі «Корчак», «Скрыпач на даху». У пачатковай школе я прымала ўдзел у конкурсе «Беларуская песня» і заўсёды атрымлівала добрыя месцы.

**АУ, АЗ:** — ***Ці Ты раней ведала песні з «Народнага альбома»?***

**КГ:** — Гэтыя песні раней прапанаваў мне бацька, яны вельмі мне спадабаліся. Цэлыя канікулы я слухала гэтую музыку. Я думаю, што зараз ведаю ўсе песні з «Народнага альбома». Мне найбольш спадабаліся «Простыя словы» і «Край, ты мой край», таму што яны маюць падвойны сэнс. Гэта для мяне цікава.

**АУ, АЗ:** — ***Твая роля, гэта...?***

**КГ:** — Я была статысткай. З групай моладзі мы сядзелі за сталом і гулялі, пры некаторых песнях мы танчылі.

**АУ, АЗ:** — ***Ці Ты мела магчымасць пазнаёміцца з музыкантамі, якія выступалі ў праекце?***

**КГ:** — Мой бацька сябруе з большасцю музыкантаў. Ён пазнаёміў мяне з Лявонам Вольскім, Зміцерам Вайцюшкевічам і Веранікай Кругловай. Мне ўдалося нават зрабіць здымкі і паразмаўляць з гэтымі слаўнымі людзьмі.


Клаўдыя (злева) з Лявонам Вольскім і сяброўкай Аннай

**АУ, АЗ:** — ***Хто выклікаў найбольшае ўражанне?***

**КГ:** — Я думаю, што Лявон Вольскі, таму што ён мой кумір з дзяцінства і я вельмі хацела з ім пазнаёміцца. Гэта такая драматычная постаць беларускай музычнай сцэны, бо калі б яго больш шанавалі і належна ацэньвалі ў Беларусі, ён быў бы вялікай зоркай. А так ён часта выступае перад невялікай публікай.

**АУ, АЗ:** — ***Што думаеш пра беларускую музыку?***

**КГ:** — Я слухаю беларускія дыскі бацькоў, а маім любімым гуртом з'яўляецца «Брутта» і «Крамбамбуля». На «Басовішчы» мне спадабаўся гурт «NAVI».

**АУ, АЗ:** — ***Ці звязваеш сваю будучыню са сцэнай?***

**КГ:** — Калі я была малодшай, ахвотна выступала на сцэне, аднак з гадамі ў мяне з'явілася хваляванне і я магу выступаць толькі з гуртом. Музыка аднак далей важная. Я люблю хадзіць на канцэрты і спяваць, напрыклад, пры вогнішчы. Не, я не звязваю сваёй будучыні з музычнай сцэнай.

Размову правялі *Агата Усціновіч і Агнешка Зданоўская, гімназісткі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.*

Вершы Віктара

# Шведа



## Шкада аўтамашыны

Паходжвае нервова
Муж перад домам.
– Ты тужыш, адным словам,
За жонкаю, вядома.

– Што сталася з ёю? –
Пытае мужчына.
– Дык знікла з маёю
Новай аўтамашынай.

## Мы ж мужчыны, татка

– Пакасілі мы нібыта, –
Кажа бацька сыну.
– Каму ж касіць, стары ты,
А я яшчэ хлапчына.

– Спажылі мы катлеты,
Што зрабіла нам матка.
Мудры сын сказаў на гэта:
– Мы ж мужчыны татка.

*Замкі і палацы Беларусі*

# ЗАМАК, ДЗЕ Б'Е СЭРЦА БЕЛАРУСІ

Замежныя турысты часта называюць Беларусь краінай замкаў і добрага хлеба.

Сапраўды, нідзе ў свеце не пякуць так добрага, здаровага хлеба. Той, хто не верыць, хай з'ездзіць на «Заслаўскі кірмаш», які адбываецца напрыканцы лета. Разам з дзясяткамі відаў духмянага хлеба, выпечанага па старых рэцэптах, гаспадары прапануюць яшчэ дзясяткі відаў мёду і аздобныя кветкі. У Заслаўі знойдзем не толькі смак добрага хлеба. Тут знаходзіцца легендарны замак. Месца праславіла княгіня Рагнеда, дачка полацкага князя Рагвалода. Праўдападобна трапіла яна ў Заслаўе ў 985 годзе, адразу пасля ўзвядзення замка.

Як ведаем са старонак гісторыі, Рагнеда была прыгожай і гордай князёўнай. Яна не хацела ісці замуж за кіеўскага князя Уладзіміра. Уладзімір захапіў яе сілай ды, каб адпомсціць знявагу на гонары, забіў бацьку і братоў Рагнеды. Хоць Рагнеда нарадзіла Уладзіміру дзяцей, яна ніколі не забыла пра сваю крыўду. Аднойчы яна вырашыла забіць князя ў сне. Калі яна дабыла корд і замахнулася на спячага мужа, князь прачнуўся. Ён хацеў расправіцца з Рагнедай, аднак за маці заступіўся іх малалетні сын Ізяслаў.

— Пакуль заб'еш маці, спачатку адолей мяне! — вымавіў строга маленькі Ізяслаў і паказаў меч.

Вялікі князь быў пад вялікім уражаннем ад мужнасці сына. З-за гэтага ён дараваў жыццё сваёй няскоранай жонцы. Пасля здарэння ён адаслаў Рагнеду ў замак у Заслаўі. Мясцовасць знаходзіцца непадалёк Мінска і названа яна ў гонар храбрага Ізяслава.



Сёння захаваліся земляныя валы, якія акружалі драўляную крэпасць з X стагоддзя.

На месцы старажытнага замчышча стаіць Спаса-Праабражэнскаяцарква. Белы, дастойны будынак царквы часам называюць белым птахам. Ён напамінае легенду пра гордую князёўну Рагнеду, з якой гісторыкі звязваюць пачаткі беларускай дзяржаўнасці і хрысціянства ў Беларусі.

**Зорка**

Польска-беларуская

# крыжаванка № 46-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42:**

Парта, га, торба, час, корт, мара, мозг, кош, рыс, ну, кошт, тамат, хор. Рэчка, рот, мыш, каза, торг, гора, ах, арт, мо, гонар, парашут.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Ангеліка Туманова, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Зузанна Мішчук, Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Дамініка Сікора, Бася Дамброўская, Эмілія Казлоўская, Юлія Грыц** з Міхалова. Віншуем!



# Вершы Юркі Буйнюка



## Стварайце вершы

Мінула ўжо крышку часу, калі чытаў я допіс Юркі Буйнюка „Быць паэтам” („Ніва” № 22 ад 29.01.2016), і ўсё збіраўся разгарнуць ягоную думку: „(...) паэты, якія прадбачылі нам век, у якім мы жывем”. Так, гэта праўда, паэты ствараюць сваімі вершамі новую рэчаіснасць, значыць, ствараюць ідэямі, якія змяшчаюць іх паэтычныя радкі. „Верш ёсць цудам” — так прапануе глянуць на верш Яраслаў Мікалаеўскі, публікуючы кожны тыдзень „wiersz klasyczny albo nowy”. А цуд не здараецца штодзень, бо цуд гэта дар ад Бога. Боб Дылан: „Powiedzmy, że zjawił się Duch Święty i mnie natchnął” („Gazeta Wyborcza”, 15-16.10.2016). Можна сказаць, што Дух Святы падказвае Нобелеўскай акадэміі што і раз прызначаць самую важную ўзнагароду ў галіне літаратуры паэтам.

Але Юрка Буйнюк пакуль што ў „Ніве” публікуе ўспаміны. Чакаем таксама яго новых вершаў. Што было, тое не вернецца. Ну бо хто ж прадбачыць век, у якім будуць жыць дзеці і ўнукі, як не паэты. Век з усімі яго, пакуль што, невядомымі праблемамі.

Не так даўно чытаў я выказванні аднаго, не паэта, а навукоўца, што чалавечае карысталюбства і калькуляцыя будзе эвалюаваць на вышэйшы ўзровень эвалюцыі. І што этыка тармозіць прагрэс ведаў, эмпатыя характэрная статкавай жывёле, а маральнасць гэта спадчына па асобенях, якія знаходзяцца на ніжэйшым узроўні эвалюцыі. Зараз, дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу і ўсялякім біянавукам трансплантaлогія гэта быццам бы новы цуд. Пішу „быццам бы”, бо нават калі ўжо карысталюбства і калькуляцыя пхае чалавека на вышэйшы ўзровень эвалюцыі, калі чалавек паралельна будзе мець апрача сваёй інтэлігенцыі нейкую штучную, то не напіша цуд-верша, бо сам „верш з'яўляецца цудам”. Каб напісаць, дзе там напісаць, стварыць верш, трэба мець штосьці, што характэрнае толькі чалавеку: пачуццё свайго існавання, пачуццё ўнутранай і вонкавай рэчаіснасці, пачуццё свайго смутку і радасці, а таксама фізічнага, не ўдаванага болю і г.д.

Так што творцы паэзіі стварайце вершы.

**М. К.**

### ВОСЕНЬ

І вось прыйшла пані восень
Шчыра свае дары расклала
Лісцевым дываном зямлю пакрыла
А з ёю сонечны верасень
У нясмелым сонцы апошні бляск лета
Прыйшлі доўгія вечары
На стале гарачая гарбата
У садах восеньскія дары
Залацістыя грушы і антонаўкі
Пры плоце хіляцца фіялетавыя слівы
Тоўстыя дыні ў агародзе
Пры хаце вінаград у даспелай уродзе
Восень — пара ўборкі
Цыбулі, бульбы і морквы
А з малін будуць настойкі салодкія
На прастуду патрэбныя
Поўныя дароў восені
Слоікі і кошыкі
Багацце восені
— садавіны мар здзяйсненне

Халодныя ночы і раніцы
Дарогі і лугі закрытыя вуаллю туманаў
Дрэвы быццам каляровыя фіранкі

Развешаныя на вокнах дні
І сонечны кастрычнік
І шэры дажджлівы лістапад
За настальгію восені я рад
Як дождж струменяў пальцамі
Іграе на клавішах дахаў
Ціха тужу за старым светам
Восенню добра быць паэтам

*2014.09.05*

### * * *

Жыву ў краіне
Якой паміраюць паэты
Высыхае крыніца слова
А сапраўдны авангард
Стаў як некаштоўны валантарыят
Машыны ідэальных вобразаў
Выхоўваюць новае пакаленне
Далёка ад слова
Далёка ад пачуццяў
Далёка ад веры
Далёка ад шчырасці
Слова перастала смакаваць хлебам
Вершы перасталі быць небам
Адпачынак пры высахлай
крыніцы слова
Непатрэбны нікому
Паэт стаў паэтам
Адзінокі
Незразумелы
Неразгаданы
Непатрэбны
Сабе самому

*2016.05.28*

### * * *

Сніцца мне бабуля
Манька Самасюк-Буйнюк
З краіны вечнасці
Прыходзіць у сваю хату
Перад іконай продкаў
Кладзе агонь шчырай малітвы
Чую яе верны добры голас
Бачу яе сапраўдны твар
Быццам асцярогу
Перад дажджлівым заўтрам
Верны вобраз бабулі знікае
З пачаткам сённяшняга дня
Стараюся захаваць
Рэальны вобраз сну
Які расплываецца ў маёй памяці
Як туман лістападаўскай раніцы
Хачу нацешыцца
Спатканнем з міражом вечнасці
Якая памірае
Вяртаннем да новага дня
Рэальнага свету турбот

*2016.07.25 панядзелак 15:15*

### ЮБІЛЕІ

Дзевяностагоддзе
Васьмідзесяцігоддзе
Сямідзесяцігоддзе
Шасцідзесяцігоддзе
Пяцідзесяцігоддзе
У кульце дзёрзкіх старцаў
У смярдзючых
нафталінам пінжаках
Этнафілолагаў
Рацыянераў
Белсатаманьякаў
Радзімай псеўдакультуры
Няма месца для маладых

*2016.09.02*

### ФАТАГРАФІЯ

Гляджу на чорна-белы
Вобраз сямейнай гісторыі
Роднага майго маленства
На ім шчырае блізкае люстра
Твару майго дзеда Валодзькі
Яснае ліпеньскае сонца
Майго бестурботнага дзяцінства
На пажоўклай паперы вечнага часу
Шукаю мастоў успамінаў
Што спалучаюць родныя карані
Пакаленняў дрэва вечнасці
З сённяшнім днём
У добрым поглядзе
Знаходжу спагаду і здзяйсненне
Боль перад падарожжам
Да незнаёмай краіны вечнасці
Там спаткаемся ўсе
На Судзе Жыцця
Блізкія і далёкія
Перад Бацькам Усявышнім

*2016.07.25 панядзелак 14:53*

### * * *

Сёння куплю
Білет расстання з горадам
Сёння сустрэну
Успаміны мінулае вясны
На вёсцы спатканні шчырасці
Тут мае родныя карані
Дрэвы веры і шчасця
Узрастаюць у маці-зямлю
Якіх пасадзіў бацька-час
Тут наша родная мова
Тут наша вера
Пад купалам збаўлення
Пад крыжам перамогі дабра
Пад святой іконай
Гарыць свяча шчырае малітвы
Падзякі за сустрэчу
З сардэчнай краінай дзяцінства.

### РОДНАЕ КАРЭННЕ

Сонечнай ліпеньскай раніцай
На веласіпедзе маладосці
Адпраўляюся ў падарожжа
На сустрэчу з роднай краінай
Тут мяне сустрэне
Гасцінны твар
Матулінай хаты дзяцінства
Сардэчным словам радасці
Прывітае мяне
Дзед Васька
З яго глыбокага акіяна памяці
Выплыве верш ягонай маладосці
Адкрыюцца балючыя карты
Кнігі гісторыі роднага Падляшша
У шчырых мудрых словах дзеда
Ажываюць рэальныя вобразы праўды
Твараў нашых продкаў
Лічбы нараджэння і смерці
Радасці і суму
Шчасця і цярпення
Веры і праўды
У памяці сённяшняга дня
Запісваю вобраз і гук
Маёй роднай памяці
У Рудутах жыве вечны час
Тут сустракаецца ўчора і заўтра
Тут час плыве ракою ўспамінаў
У вобразе роднага твару дзеда
У багацці яго слова праўды
У поглядзе добрых родных слоў
Бачу люстра самога сябе

*2016.07.25 панядзелак*

## Анна Мароз.

# Паміж памяццю і гісторыяй

**Канфлікт калектыўнай памяці палякаў і беларусаў, на прыкладзе постаці Рамуальда Райса «Бурага» — гэта назва кнігі і яе сустрэчы з яе аўтаркай Аннай Мароз. Сустрэча арганізаваная была Партыяй Разам у рамках цыкла сустрэч прысвечаных культуры. Кніга была апублікавана філіялам беластоцкага аддзела Інстытута нацыянальнай памяці. Сустрэча з Аннай Мароз адбылася ў пятніцу 28 кастрычніка ў кавярні Лялечнага тэатра па вуліцы Каліноўскага ў Беластоку.**



■ Севярын Пракапюк, Юстына Рэмбішэўская і Анна Мароз

Сваю кнігу Анна Мароз пачала пісаць падчас вучобы на факультэце сацыялогіі ва Універсітэце ў Беластоку. Тэма была ўзята з магістарскай дысертацыі аўтаркі, якую пачала пісаць у 2012 годзе пад кіраўніцтвам прафесара Пятра Глінскага (цяперашняга міністра культуры). Абараніла яе ў 2014 годзе. Гайнавянка Анна Мароз сёння кажа, што перад тым, як пачаць пісаць магістарскую працу, ніхто ніколі не чуў пра Нацыянальную Гайнаўку ці маршы ОНР у яе родным горадзе. Аўтарка прызнаецца:

— Я не гісторык. Гэта не гістарычная кніга. Я не аналізую і не інтэрпрэтую гістарычных фактаў. Гэта расказ пра розныя памяці, якія выцякаюць з гісторыі, памяці розных асяроддзяў, пра шматлікія «праўды», якія функцыянуюць і што яны так моцна адрозніваюцца адна ад аднае. Гэта кніга пра тое, як гісторыя стварае рэальнасць, як па-рознаму гісторыя можа быць інтэрпрэтаванай. Такім чынам можна апісаць розныя падзеі. Я выбрала якраз гэтую, таму што я з Падляшша і Падляшша мне дарагое. Разам з ягонай гісторыяй і ўсім, што з ім спалучаецца. Гэта не павінна быць так, што ўсё рэлятывізавана, як права на жыццё. Калі ўлічыць, што каштоўнасць жыцця з'яўляецца найбольш важнай, дык **калектыўная памяць** не можа быць рэлятывізаванай. Памяць патрабуе вырашэння.

У прадмове да кнігі гаворыцца: «Нягледзячы на тое, што Польшча зараз краіна амаль аднародная з пункту гледжання нацыянальнасці і рэлігіі, Падляшша з яго мінулым можна разглядаць як мясцовы цэнтр мультыкультуралізму. На працягу многіх стагоддзяў жылі тут побач сябе мусульмане, праваслаўныя, стараверы, каталікі і габрэі. Кожная з гэтых супольнасцей па-свойму разумее сваё трыванне на гэтай тэрыторыі, па-рознаму ацэньвае свае адносіны з іншымі, адны і тыя ж падзеі для некаторых маюць вялікае значэнне, у той час як іншыя спрабуюць сцерці іх з памяці. У адносінах паасобных груп выступаюць іншыя героі ды іншыя здраднікі, тая ж асоба можа быць і адным, і другім, у залежнасці ад аповеду. Мая праца паказвае постаць Рамуальда Райса «Бурага», якая дзеліць палякаў і беларусаў амаль семдзесят гадоў. Канфлікт тычыцца яго дзейнасці ва ўзброеным падполлі, калі камандаваны ім атрад здзейсніў пацыфікацыю некалькіх беларускіх вёсак і расстраляў вазакоў. Мае яна сімвалічны характар, сутнасць яе складаецца ў спрэчцы адносна таго, чыя памяць «праўдзівая», «адзіная» і «слушная», таму што «памяць патрабуе вырашэння: здраднік гэта ці герой, злыдзень гэта ці святы, праўда гэта ці хлусня».

Кніга Анны Мароз была выпушчана ІНП у мінулым годзе тыражом у тры тысячы асобнікаў. Тым не менш, як сказала на сустрэчы аўтарка, па таемных прычынах прасоўванне публікацыі выдаўцом нераскручанае. Немагчыма ўбачыць яе ў спісках новых публікацый на ІНП, немагчыма ўбачыць яе таксама ў кнігарні www.ipn.poczytaj.pl. Чаму? Невядома. Магчыма, можна набыць яе па пошце ці ў філіялах ІНП. Цяпер, мабыць, як сказала Анна Мароз, ІНП не меў бы ніякіх шанцаў выдаць такую кнігу. Аўтарка не хацела таксама адносіцца да цяперашняй палітычнай дзейнасці свайго прамотара, які даў ёй вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу аб калектыўнай памяці ў кантэксце «Бурага», падказваў ёй дарогу навуковых даследаванняў у гэтай тэме, заахвочваў таксама да выдання яе магістарскай дысертацыі кнігай.

— Быў момант, калі я перастала верыць **у выданне гэтай кнігі**. Было шмат людзей, якія не хацелі яе выдання, і нават больш — спрабавалі прадухіліць выданне і заблакаваць яго — многіх з іх ведаю або пра іх чула, але столькі ж тых, каго я не ведаю. Але былі такія, што на самой справе дапамаглі мне і падтрымалі публікацыю. Пыталіся, колькі яшчэ працы, працавалі над рэдагаваннем, пісалі пра яе што яна выйдзе і на самой справе ў гэта верылі. Я хачу падзякаваць ім за гэта. Пішучы магістарскую працу, цяпер, верагодна, шмат рэчаў я дадала б, таму што шмат за гэты час адбылося. Я пачула таксама шмат рэчаў, добрых і дрэнных, як выдавецкія рэкамендацыі з універсітэцкага асяроддзя, што было для мяне вялікім гонарам, ці мо з'яўляецца мая праца «гнётам» ад асоб, якія баяліся шматмернага пункту гледжання і поліфанічнасці памяці.

— **Моцныя эмоцыі памяці**. Немагчыма пазбегнуць польска-беларускага канфлікту, калі ёсць палякі, якія трактуюць «Бурага» як героя. Калі нават гісторыкі, навукоўцы не могуць прыйсці да згоды адносна версіі гісторыі, што ўжо казаць аб аднароднасці калектыўнай памяці, якіх так шмат, столькі ж, як і супольнасцей. У гэтых адносінах няма аднароднага грамадства.

Некаторыя папракалі аўтарку, што сваім выданнем распальвае канфлікт. Анна Мароз грунтавала кнігу галоўным чынам на публікацыях на тэму канфлікту вакол «Бурага», якія з'яўляліся ў агульнапольскай і мясцовай прэсе і каментарыях у інтэрнэце. Маладая навуковец засцерагала:

— Гэта ёсць навуковая праца пра канфлікт памяці, апісанне рэальнасці. Гэта не выкліканне канфлікту. Сярод мноства змешчаных у кнізе прэс-каментарыяў аб «Бурым» (канфлікт памяці) можна прачытаць: «Буры быў псіхапатам!!! Перш за ўсё ён быў польскім нацыстам і забойцам дзяцей!», «Буры» быў самым звычайным паталагічным бандзюгам, злачынцам, якога судзілі і асуджалі, як і іншых злачынцаў, напрыклад, у Нюрнбергу». Але былі і такія: «Шкада, што няма ўжо такіх палякаў-патрыётаў, як «Буры». Чырвоная зараза сярод кацапаў усюдыісная. Адзіны лек для іх, як і ў выпадку «чырвоных вазакоў» — у чэрап і ў зямлю!».

«Няма чыстай памяці», — мяркуе Анна Мароз. У час сустрэчы, ведзенай актывістамі падляшскай Партыі Разам Юстынай Рэмбішэўскай і Севярынам Пракапюком, у кантэксце канфлікту вакол калектыўнай памяці выкліканы быў і Першы гайнаўскі марш выклятых салдат, які праходзіў праз цэнтр Гайнаўкі ў лютым 2016 года. Менавіта ў гэтым горадзе, дзе ў асноўным пражываюць беларусы і праваслаўныя, быў ён арганізаваны самымі крайнімі правымі нацыяналістычнымі арганізацыямі (у асноўным ONR і **Narodowa Hajnówka**). Галоўным героем маршу быў якраз «Буры». Анна Мароз, спасылаючыся на марш, сказала:

— У мяне няма ніякіх праблем з тым, каб ён прайшоў праз Гайнаўку. Калі людзі хочуць выказацца такім чынам, гэта нармальна. Але калі звозяць на такі марш заказнымі аўтобусамі людзей з усёй Польшчы — гэта нейкі паказ. Чаму на гэтым маршы не было партрэтаў Пілецкага ці «Ніля», а наперадзе быў «Буры»? Гэта мела паказаць, што «нас» больш з вас, мы ведаем лепш. Не падабаецца мне таксама тая катэгорыя «выклятых салдат». Гэтыя салдаты належалі да розных фракцый. Спалучала іх галоўная мэта, але імкнуліся да яе іншымі шляхамі, а зараз укінулі іх у адзін мех. Непатрэбна... Калектыўная памяць настолькі эмацыйная, і яе постаці настолькі неадназначныя, што гэтая памяць не можа быць «чыстай». Няма такога паняцця, як чыстая памяць. Але мы павінны, як той казаў, «грэбціся» ў гэтай гісторыі, таму што адной з функцый калектыўнай памяці з'яўляецца стварэнне сваёй **уласнай ідэнтычнасці**, і выконвае гэта ролю інтэграцыі. Цяпер, магчыма, яна занадта эмацыйная і на гэта ёсць грамадскае прызнанне, якога не было раней.

Анна Мароз не хавала, што яна выбрала тэму канфлікту калектыўных памяцей ды канфлікт у сувязі з дзейнасцю «Бурага», таму што яна з блізкага ёй Падляшша і кранае яе тое, што тут адбываецца:

— Ні адзін з маіх дзядоў не адчуваў сябе палякам. Бацькі ўжо не. Трэцяе пакаленне асімілюецца або шукае сваіх каранёў. Я шукаю сваю ідэнтычнасць. Мае дзяды вызначаліся такім чынам, што яны проста «адсюль». Я таксама адчуваю, што я «згэтуль», і магу сказаць, што я тутэйшая. Я пакінула Гайнаўку ва ўзросце 15 гадоў і прыехала ў Беласток, каб адмовіцца ад сваёй ідэнтычнасці. Ідэнтычнасць, аднак, дагнала мяне. Я недзе прачытала артыкул на тэму «Бурага» і пачала ў ёй капацца.

Між іншым кніга Анны Мароз была патрактавана ў правай польскай прэсе як распальванне варажнечы і абвінавачванне **ў злачынстве святых герояў**, якія ў мірны ўжо час час аддалі сваё жыццё за незалежнасць Польшчы.

Ліст у абароне польскага героя падпісалі: доктар Марыюш Бэхта — Гістарычная рада пры Асацыяцыі салдат Нацыянальных узброеных сіл, Себасцьян Баемскі — ГР пры АСНУС, Пшэмыслаў Чыжэўскі — кіраўнік Стражы маршу непадлегласці, доктар Рафал Дабравольскі, старшыня Акругі Люблін АСНУС, Дар'юш Ярасінскі — галоўны рэдактар штомесячніка «Дэбата», д-р габ. Кшыштаф Качмарскі — ГР пры АСНУС, Багуслаў Лабэндскі — старшыня Гістарычнага таварыства імя Дануты Сэдзікуўны «Інкі», д-р Рафал Латка — гісторык вызваленчага падполля, д-р Войцех Мушынскі — ГР пры АСНУС, Міхал Астапюк — гісторык вызваленчага падполля, Яцак Паўловіч — гісторык вызваленчага падполля, доктар філасофіі, Рамуальд Райс — сын капітана Райса «Бурага», лекар, Аркадыюш Райс — унук «Бурага», Каятан Райскі — рэдактар — штоквартальніка «**Wyklęci**», доктар Рафал Серхула — ГР пры АСНУС, рэд. Эва Шакаліцкая — тэлежурналіст і актывістка «крэсаў», праф. Рамуальд Шарамецьеў — сын салдата названы імем Райса, доктар Бартламей Шыпроўскі — гісторык незалежніцкага падполля, Пётр Шубарчык — гісторык незалежніцкага падполля, Караль Волэк — віцэ-старшыня Асацыяцыі салдат Нацыянальных узброеных сіл, Ежы Залеўскі — рэжысёр кінафільма «Гісторыя Роя», Артур Завіша — віцэ-старшыня Хрысціянска-нацыянальнай асацыяцыі, праф. Ян Жарын — сенатар, Лешэк Жабroom — ГР пры АСНУС, Пётр Жыценьскі — мастак-фатограф. У лісце напісана між іншым:

«Капітан Рамуальд Райс пс. «Буры» паходзіць з Падкарпацця, прафесійны салдат і даваенны падафіцэр. Удзельнік вайны 1939 г. і салдат Арміі Краёвай на Віленшчыне, удзельнічаў у аперацыі Вострая Брама. У незалежніцкім падполлі — салдат «Лупашкі», быў камандзірам эскадрыллі ў V Віленскай брыгадзе АК. Пасля яе роспуску заснавальнік, камандзір III Віленскай брыгады Нацыянальнага ваеннага саюза (Narodowe Zjednoczenie Wojskowe), у якім камандаваў Pogotowiem Akcji Specjalnej у акрузе Беласток і атрымаў званне капітана. Як салдат незалежніцкага падполля змагаўся з камуністычны рэжымам, усталя-

працяг ☞ 10

9 ☞ працяг

# Паміж памяццю і гісторыяй

ваным на савецкіх штыхах. (...) Капітан «Буры» разам са сваім намеснікам «Рэкінам» былі прысуджаны да смяротнага пакарання пасля судовага рашэння сталінскага паказальнага суда ў Беластоку ў 1949 г. Прысуд быў выкананы, а цела было пахавана ў невядомым месцы. У 1995 годзе Варшаўскі акруговы вайсковы суд, дзейнічаючы ў адпаведнасці з Законам аб прызнанні несапраўднымі рашэнняў, вынесеных у адносінах да асоб, якія праследаваліся за сваю дзейнасць ад імя незалежнай польскай дзяржавы, вынес рашэнне поўнасцю рэабілітаваць «Бурага» і «Рэкіна». «Буры» як двухкратны ардэнаносец «Virtuti Militari» быў адным з салдат Польскай Падпольнай Дзяржавы і адным з герояў нашай свабоды. На жаль, да сёння яго памяць і гонар азмрочаны людзьмі дрэнна наладжанымі або не ў поўнай меры інфармаванымі аб характары яго барацьбы і службы. З гэтай мэтай усчынаюцца спрэчкі з нагоды ваенных дзеянняў у раёне Бельск-Падляшскі, у выніку якіх здарылася смерць пацярпелых жыхароў такіх сёл як Залешаны, Волька-Выганоўская, Зані, Шпакі.

Таму неабходна, каб растлумачыць, што «Буры» прыняў бой у агульнанацыянальным антыкамуністычным паўстанні, другім бокам якога былі саветы і камуністы, да якіх належалі забітыя жыхары гэтых вёсак. Пры свабоднай Польшчы яны былі актывістамі і супрацоўнікамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якія аб'яўлялі жаданне адарваць Падляшша і Беласточчыну ад Macierzy, каб уключыць польскія землі ў Савецкі Саюз. Пры савецкай акупацыі адны і тыя ж людзі былі супрацоўнікамі савецкай ваеннай контрвыведкі СМЕРШ (Смерць шпіёнам) і НКУС, ганіцелямі «ворагаў савецкай улады». 19 красавіка 1945 года прызначаны саветамі беластоцкі ваявода выдаў указ аб стварэнні Сельскай парадкавай гвардыі, значыць, папярэдніцы ОРМО, узброеную дзеля страляння ў напрамку «Бурага» і яго войскаў. Былыя актывісты КПЗБ сталі памагатымі ўзброеных савецкіх салдат у паляванні на незалежніцкіх падпольшчыкаў, каб аддаць іх у рукі камуністычных улад. У гэтым сэнсе акцыі «Бурага» мелі за мэту забеспячэнне, паколькі пацыфікавалі інфарматараў, гатовых выдаць на смерць больш за дзве сотні салдат III Віленскай брыгады NZW.



Дзеянні капітана «Бурага» змяшчаліся ў межах канонаў этыкі, уключаных у працы святара, этыка і салдата прафесара Юзафа Марыі Бахеньскага «De virtute militari. Zarys etyki wojskowej». Вядома, мы павінны выказаць шкадаванне з нагоды магчымых нявінных ахвяр баявых дзеянняў на тэрыторыі драўлянай забудовы, якія пацярпелі смерць без намеру і дзеянняў камандавання ў выніку **гвалтоўнай дынамікі на полі бою**. Смерць жанчын і дзяцей, за выключэннем выпадкаў выкарыстання іх у якасці жывых шчытоў камуністычнымі байцамі з ППР, была вынікам удушша ў падпаленых будынках або выпадковым агнястрэльным раненнем або, у горшым выпадку, непадпарадкаваннем аднаго з салдат. Капітан «Буры», як прафесійны салдат у ранзе падафіцэра і афіцэр нацыянальнага ўзброенага падполля распачаў і вёў барацьбу супраць узброеных праціўнікаў незалежнасці Польшчы, і гэта было мэтай яго шматлікіх ваенных дзеянняў, у тым ліку рэдкіх з характарам ахоўна-пацыфікацыйным. (...) Некаторыя назіральнікі цытуюць меркаванне пракурораў з філіяла Беластоцкага ІНП як дакумент у шкоду віну капітана «Бурага». Трэба адзначыць, што ў лацінскай цывілізацыі абвінаваўчы акт не эквівалентны прысуду, які павінен адбыцца ў выніку справядлівага судовага разбору і пасля заслухоўвання бакоў у адпаведнасці з рымскай парэміяй: audiatur et altera pars. У дадзеным канкрэтным выпадку, падставай для абвінавачвання з'яўляюцца паказанні сведак, якія ў асноўным сваякі, нашчадкі і прыхільнікі людзей, якія страцілі свае жыцці ў выніку ваенных дзеянняў III Віленскай брыгады NZW. Трэба быць вельмі асцярожнымі, каб мець давер да паказанняў гэтых сведак, і нават крытычна выказаць здагадку, што яны загадзя неспрыяльныя для «Бурага», які разглядаецца як гістарычны і палітычны праціўнік пракамуністычных асяроддзяў на Падляшшы, асабліва сярод беларускага насельніцтва. З іншага боку, вельмі нешматлікімі з'яўляюцца паказанні сведак, якія былі падначаленымі «Бурага» або незалежнымі назіральнікамі, што значна аслабляе сілу заўчасных пракурорскіх высноў. (...) Капітан «Буры» змагаўся за вольную Польшчу з двума акупантамі з 1939 па 1949 г. Дзесяць гадоў барацьбы зрабілі яго героем польскай незалежнасці. Ён быў салдатам Польскай арміі, Арміі Краёвай і NZW — Нацыянальнага ваеннага саюза. У абарону свабоды і поўнай незалежнасці Рэчы Паспалітай страляў па нямецкіх захопніках і акупантах ды савецкіх акупантах і калабарацыяністах. Ён належыць да групы «Выклятых салдат» — тых, каму мы абавязаны свабоду Польшчы. Менавіта таму мы выступаем у абарону памяці і гонару камандзіра III Віленскай брыгады NZW капітана «Бурага».

❖Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

MOVABOX №01 Авантуры студыёзуса Вырвіча

БОЛЬШ, ЧЫМ КНІГА

## http://movabox.by

„Ніва" ўжо неаднойчы пісала, што ў Беларусі беларуская мова з-за сваёй не надта вялікай пашыранасці ў штодзённым жыцці, стала выкарыстоўвацца як маркетынгавая асаблівасць пры рэкламе. Самыя разнастайныя брэнды, у тым ліку і сусветна вядомыя, зараз звяртаюцца да яе, каб падкрэсліць уласную адметнасць, адрознасць ад іншых, і тым самым прыцягнуць увагу патэнцыйных кліентаў. Гэта асаблівасць сучаснага жыцця неблагая для захавання мовы — па меншай меры яна выкарыстоўваецца, а значыць жыве.

Аднак некаторыя фірмы пайшлі ўжо далей простых білбордаў, дзе рэклама падаецца па-беларуску. Так, адзін з апаратараў мабільнай сувязі, а менавіта Velcom, які належыць кампаніі Telekom Austria, ўзяўся папулярызаваць беларускую літаратуру. Так, напрыканцы кастрычніка ў інтэрнэце з'явіўся сайт **http://movabox.by**. „Movabox не проста выдатная кніга на мове — гэта сапраўдны рытуал чытання, які адкрывае новыя грані ўспрымання папяровых старонак. Гэта ўнікальны набор для літаратурнай прыгоды, закліканы даказаць, што сучасныя беларускія кнігі здольныя заваяваць месца ў вашым сэрцы", — узнёсла прэзентуе мабільны аператар сваё новае маркетынгавае інтэрнэт-вынаходніцтва. Гэтае вынаходніцтва настолькі незвычайнае, што ад пачатку ўвогуле не разумееш, як ім карыстацца.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі дзіўна. Яна падзелена на дзве часткі, дзе на першай размешчаны прэзентацыйны тэкст, а на другой — выява чамадана. Убачыць нейкія выйсці на рубрыкі адразу не ўдаецца — таямніца адкрываецца толькі пасля клікання мышкай на ўсе магчымыя выяўленні.

„У першым Movabox вас чакаюць героі роўд-трыпа «Авантуры студыёзуса Вырвіча», з якімі вы пройдзеце ўсю Еўропу. І, вядома, для гэтага вам спатрэбіцца карта і налепкі, якія ідуць у камплекце з кнігай", — распавядаюць стваральнікі незвычайнага сэрвіса на галоўнай старонцы, запрашаючы да далейшага пераходу па стрэлцы. Пры гэтым яны не кажуць, што за карта і тым больш, што за налепкі, якія і неабходныя для чытання прапанаванай кнігі. У выніку ж пераходу па стрэлцы мы трапляем на пытанні тэста, што ёсць своеасаблівай праверкай прачытанага роўд-трыпа.

Што ж тычыцца выйсцяў на іншыя рубрыкі, то яны схаваныя пад дзвюма рысачкамі ў правым верхнім вуглу цэлага выяўлення. Менавіта там, у рубрыцы „Пра праект", нам крыху раскрыецца мэта стварэння Movabox. „Каб палепшыць ваш літаратурны досвед, мы выбралі самыя цікавыя беларускія кнігі і дадалі да іх прадметы, якія адновяць атмасферу папяровых старонак. А потым аб'ядналі ўсё гэта ў калекцыйных скрынках Movabox. Movabox — гэта сэт з кнігі з аўтографам аўтара і атрыбутаў падарожжа па кнізе. Тыраж скрынак абмежаваны. Іх усяго 20 штук! І ўсяго 6 тыдняў, каб атрымаць сабе адну", — кажуць стваральнікі і ўладальнікі незвычайнай гульні. Ну а шанец атрымаць скрынку даецца таму, хто слушна адказаў на пытанні тэста па ўсіх кнігах, з якіх на сайце пакуль прадстаўлена толькі адна.

З іншых рубрык цікавай можа быць „Навіны", дзе распавядаецца пра тое, што праект Movabox „працягвае намаганні Velcom, накіраваныя на падтрымку беларускай культуры, мовы і літаратуры".

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Непазбежная гібель паэта



## 120 гадоў з дня нараджэння
# Міхася Чарота

Беларускі паэт, грамадска-культурніцкі дзеяч Міхась Чарот (сапраўднае прозвішча Кудзелька) нарадзіўся 7 лістапада 1896 году ў мястэчку Рудзенск Ігуменскага павета (цяперашні Пухавіцкі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Дзед Міхася быў майстрам па ткацтве, адкуль прозвішча ад пана, адпаведнае яго заняткам, бабуля паэта працавала карміцелькай у панскім палацы. Чарот меў па двое братоў і сясцёр: Паўла (інжынер і хатні педагог), Аляксандра (аграном), Марыю (кухарка) і Насту (акторка). Стрыечны брат Міхася Чарота, Іосіф Кудзелька, быў начальнікам упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры саюзе пісьменнікаў БССР, іншы, Іван Кудзелька, займаў пасаду народнага камісара фінансаў БССР.

Першую адукацыю Чарот атрымаў у наёмнага настаўніка і ў Цітвянскім двухгадовым вучылішчы. Пісаць пачаў у трынаццацігадовым узросце. У 1913-17 гадах вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. У Першую сусветную вайну семінарыя эвакуявалася ў Смаленск, дзе прайшлі два апошнія гады навучання. Пасля вучобы, быў мабілізаваны ў армію. Служыў афіцэрам запаснога палка ў Кузнецку. Там разам з іншымі афіцэрамі-беларусамі намагаўся стварыць беларускі гурток. Пазней усталяваў сувязь з падпольнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі ў Беларусі, працаваў у паўстанчым камітэце і займаўся арганізацыяй паўстанцкіх атрадаў.

Вясной 1918-га вярнуўся ў Мінск, дзе пачаў настаўнічаць у беларускай школе. Спяваў у хоры Уладзіміра Тэраўскага пры „Беларускай хатцы", меў прыгожы барытон. Быў старшынём тэатральнай суполкі „Маладзік", выконваў ролі ў трупе Уладзіслава Галубка. У 1919-ым Чарот — сябра Беларускага нацкаму і створанай пры ім Ваеннай Рады. У 1920 г. уступіў у камуністычную партыю, быў рэдактарам газеты „Советская Белоруссия". Першы паэтычны зборнік Міхася Чарота „Завіруха" выйшаў у 1922 годзе. У 1923-ім удзельнічаў у стварэнні літаратурнага аб'яднання „Маладняк" (меў пасведчанне №1), з якога выйшаў у канцы 1927-га. Некаторы час быў сябрам аб'яднання „Полымя", пасля — у Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў У 1922-24 — кандыдат у члены, у 1924-31 — член ЦВК БССР. У 1924-ым вучыўся ў Маскве ў Дзяржаўным інстытуце журналістыкі.

У 1927-ым разам з Цішкам Гартным і Міхасём Зарэцкім пабываў у Латвіі, Германіі, Францыі, Чэхаславаччыне, быў у праўленні Беларускага таварыства па культурных сувязях з замежжам. Працаваў загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва. У час сталінскіх рэпрэсій запляміў сябе вершам „Суровы прыгавор падпісваю першым...", у якім асуджаў за нацдэмаўшчыну сябраў прыдуманага карнікамі Саюза вызвалення Беларусі. Але гэта не ўратавала Чарота ад гібелі. Арыштаваны ён быў 24 студзеня 1937 года ў Мінску. Сядзеў у адной камеры з паэтам Юркам Лявонным. Засуджаны 28 кастрычніка 1937 як удзельнік „контрарэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі" да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці.· Апошні верш „Прысяга" (пра асабістую невінаватасць) запісаў на сцяне менскай турмы НКВД, дзе яго ўбачыў і захаваў у памяці Мікола Хведаровіч. Расстраляны пасля катаванняў на допытах Міхась Чарот у ноч з 29-га на 30 кастрычніка. У паэта засталіся жонка і трое дзяцей. Пры жыцці было выдадзена 12 зборнікаў паэзіі і прозы творцы. Рэабілітаваны быў у 1956 годзе. Імем Міхася Чарота названы вуліцы ў Маладзечне і Рудзенску.

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Мучэнне з бабрамі



фота: SE.pl

Бюджэт нашай дзяржавы штораз больш абцяжараны выплатай кампенсацый за шкоды, якія бабры прыносяць сельскай гаспадарцы. Паменшала дрэў у водным ландшафце. Паводле неафіцыйных дадзеных, у паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы пражывае звыш дваццаці тысяч баброў, што складае каля 90% ад агульнага ліку ў краіне. Так было і даўней, калі Бебжу называлі яшчэ Бобрай.

У Арлянскай гміне бабры асабліва ўнадзіліся ў рэчцы Белай каля Маліннік ды ў Арлянцы каля Кашалёў, Міклашоў і самой Орлі. Ды не толькі — бабры знаходзяць невялікія сажалкі сярод палёў і лясоў і там таксама ссякаюць дрэвы, будуюць свае хаткі, падыходзяць пад людскія сялібы. Сёлета ў кастрычніку паявіліся каля млына ў Орлі і там, візаві ачышчальні сцёкаў, ссякаюць старыя тоўстыя вербы, дыяметрам каля метра. Тэрыторыя прыватная, млынарова. Людзі сентыментальна шкадуюць гэтых дрэў.

Калісь бабры асабліва цаніліся з-за іхняга футра. Бабровы хвост, „плюск", быў пажаданым смакоцецм, асабліва ў манастырах, бо — пакрыты луской — лічыўся, як рыба, посны стравай.

У Вялікім Княстве Літоўскім службовыя асобы, якіх звалі баброўнікамі, вялі руплівы нагляд за вывадам і лоўляй баброў. У палове XIX стагоддзя баброў на нашай тэрыторыі выбілі, а засялілі іх зноў у 1955 годзе. Яшчэ дваццаць гадоў таму было іх не больш за дзевяцьсот, а цяпер іх лік вырас да дзясятак тысяч. Беспасяпяховай аказалася праграма іх аховы, выпрацаваная Польскай акадэміяй навук і Паляўнічым саюзам, якая прадугледжвала перасяленне іх у заходнія і паўднёвыя рэгіёны краіны. Бабёр з'яўляецца вельмі пладавітым грызуном і ў выніку аховы яго колькасць усё расце, а тэрыторый для перасялення ўсё менш.

Бабры з'яўляюцца вельмі працавітымі зверкамі. Будуючы хаткі і запруды ссякаюць дрэвы, часта тоўстыя, што прыводзіць да залівання лясоў і сенажацей, а ў выніку — да іх руйнавання.

На многіх адрэзках Арлянкі і Белай бабры ссеклі набярэжныя асіны, будуючы запруды і хаткі. Некалькі гадоў таму, у выніку хадайніцтва сялян дзеля засцеражэння ад баброў, Ваяводская ўправа згадзілася пашырыць рэчышча Арлянкі між Рудутамі і Орляй. Час паказаў, што гэтай меры ненадоўга хапіла. Баброў так многа, што яны ходзяць па лесе і капаюць там норы.

Пра праблемы, якія ствараюць бабры, спытаў я Марка Хмялеўскага, солтыса і старшыню вудзільнага кола „Мянтуз" у Орлі.

— Пры г.зв. камуне на Мазурах быў інстытут, якім загадваў нейкі прафесар — ведаю пра гэта ад чалавека, які там працаваў, — які перакanaў тадышнія ўлады, што трэба развіваць штучную гадоўлю баброў. Ён тлумачыў, што гэта станецца крыніцай валюты, што будуць іх купляць англічане на ківеры для сваіх каралеўскіх вартаўнікоў. Быў там закрыты гадавальнік баброў, які пасля 1989 года разгарадзілі і бабры выйшлі на свабоду, дзе ўмовы аказаліся вельмі ім спрыяльнымі.

Праблемы з бабрамі пачынаюцца, калі яны закранаюць меліярацыю. У нас такая праблема паявілася каля Шчытоў, дзе бабры загацілі масток пад чыгункай. Таксама каля Вулькі-Выганоўскай нішчаць меліярацыйную інфраструктуру. Плаваюць па рацэ Арлянцы і звальваюць дрэвы, хаця я лічу, што калі тут, каля млына, зваляць дрэва, то так павінна быць; толькі неўзабаве прыйдуць людзі і тое дрэва хутка выцягнуць. А такое зваленае дрэва з'яўляецца месцам пражывання многіх жывінак — помню, колькі пад такімі паваленымі таполямі было рыбы, ракаў...

Якія дрэвы ссякаюць бабры? Галоўным чынам вярбу, але калі галодныя, то і сасну перагрызуць. Некалькі гадоў таму за Орляй, у бок Рудутаў, бабры пачалі ссякаць бярозы ды вольхі і адно дрэва прыдушыла бабра.

Бабры ў Арлянскай гміне ёсць, але няма вялікай трывогі, што зальюць лугі; большыя шкоды прычыняюць дзікі. У нас найбольш такіх „баброў", што на дзвюх нагах. Як толькі нешта вырасце, то зараз прыходзяць меліяратары і хутчэй ссякаюць. Калі рэчка крыху ажыве і паявяцца нейкія круцізны ці ямкі, то пусцяць землечарпалку і зробяць жолаб. І хвала тым бабрам, што яны гарэзнічаюць на рэчках, рэнатуралізуючы іх, спыняючы ваду, якая набірае кіслароду, жыве. Людзі зрабілі з ракі сцёкавы жолаб, забываючыся, што ў рацэ павінна быць вада, а не дзесяць ці сантыметраў, каб хутка сцякла.

Паводле мяне, ссечаныя ў ваду дрэвы трэба пакінуць, бо гэта элемент прыроды, дзе за зіму з'явіцца колькі жывінак. Цяпер жа з прыродай чалавек абыходзіцца як з дзяцьмі — каб усё стэрыльнае было. А калісь жа, калі нейкі кусок яды ўпадзе ў пясок, то паднялі і з'еў. А сёння хочам стэрылізаваць рэчкі. Прырода сама бароніцца; вось вазьмі забяры ад курэй пеўня, то курыца па курыцы стане скакаць...

❖Міхал МІНЦЭВІЧ

## Клопаты з беларускім аператарам

У Пяшчатцы (РБ), зараз за дзяржаўнай мяжою, знаходзіцца мабільная перадатачная станцыя. Яна ў некалькіх кіламетрах ад Чаромхі. І тут праблема для кліентаў мабільных сетак на польскім баку. Паколькі за мяжою мацнейшы перадатчык, дык часта перайімае размовы з тэрыторыі Чаромхаўскай гміны. 18 кастрычніка я паклаў на рахунак свайго мабільніка 30 злотых. За тыдзень правёў адно пяць размоў (кожную размову фіксую з паметкай канчатковага стану рахунку). 26 кастрычніка пасля апошняй размовы на мабільніку высветлілася канчатковая сума — засталося 1,14 зл. Гэта мяне паразіла як гром з яснага неба. Неадкладна паслаў я рэкламацыю свайму аператару з пытаннем, дзе падзеліся мае дваццаць шэсць злотых. Калі не атрымаю здавальняючага адказу, — пыгразіў я, — дык пашукаю іншага верагоднага аператара. Заяўку паслаў па электроннай пошце. Праз няпоўныя дзве гадзіны тэлефанавалі ад аператара. Праверылі стан майго рахунку. Выявілася, што 23 кастрычніка з майго мабільніка зафіксавана была замежная размова на суму 26,26 зл. Я патлумачыў, што ніколі не тэлефанаваў у Беларусь. Мая ветлівая суразмоўца пагадзілася з гэтай высновай і рэкамендавала выключыць у мабільніку замежныя паслугі. А паколькі я не разбіраўся ў гэтай галаваломцы, дык яна сама роўмінг выключыла. У канцы размовы пасніла, што аператар верне забраныя 26,26 зл. і больш не будзе такіх праблем з беларускім аператарам. Народная мудрасць напамінае: хто грукае, таму адкрываюць. Варта затым было дабівацца ў слушнай справе. Раю затым шаноўным чытачам мець гэта на ўвазе.

❖Уладзімір СІДАРУК

# 13.11 — 19.11

**(22.03. — 20.04.)** Трэба будзе здзейсніць нявыгадныя абяцанні. Не шкадуй сілы, бо тое, што зробіш цяпер, аддзячыць у будучыні. Вакол цябе зараіцца ад аматараў. Перад тваёй усмешкай і інтэлектам не ўстоіць ніхто. Не ўдасца пазбегчы канфрантацыі са сваякамі. На працы думай як апярэдзіць канкурэнтаў. Пасля 16.11. шыкуйся на канферэнцыі, кірмашы, камандзіроўкі. Рэкламуй свой бізнес. Твой арганізм просіцца дэтаксікацыі.

**(21.04. — 21.05.)** Трымайся з сябрамі. Будзе мноства запрашэнняў на імпрэзы — не адмаўляйся. Калі ты нарадзіўся ў красавіку, можаш трапіць нават на замежную імпрэзу. Калі ты з другой дэкады, будзеш мець неспадзяваныя доказы сімпатыі і любові. 12-15.11. можа цябе ахапіць пачуццё недахопу сэнсу. Але з 17.11. (да 21.11.) гуляй колькі ўлезе. На рабоце не звяртай увагі на словы, а на дзеянні.

**(22.05. — 22.06.)** Нечаканыя змены, лавіна абавязкаў. Нагоды для сустрэч і карысных знаёмстваў. Крыху пагоршыцца твой настрой, але атрымаеш ад зорак веру ва ўласныя сілы і падмацоўку здароўя. 16-18.11. можа паявіцца сварка сярод сваякоў. Можаш запланаваць невялікі рамонт. 17-19.11. хтосьці схоча цябе несправядліва абвінаваціць.

**(23.06. — 23.07.)** Паляпшэнне ў адносінах і ўдалыя сустрэчы. Не наракай на свет, убач мілыя моманты і сімпатыю людзей. Не трактуй сваіх бацькоў як вялікіх дзяцей. На працы зменa на пасады або прапанова лепш платнай работы можа прытрапіцца 14.11. 15-17.11. можаш сустрэцца з перашкодамі ў рэалізацыі планаў.

**(24.07. — 23.08.)** Выпрацуеш добрую сітуацыю на працы, таксама ў фінансах. З 12.11. плануй большыя інвестыцыі. Асабістыя справы пакінь за дзвярыма хаты, не рассакрэчвай іх на працы ці ў школе. Калі шукаеш працу, бяры тое, што прапануюць. З 17.11. горача ў пачуццях. 17-19.11. не дай сябе спакусіць спадзяваннем лёгкага і хуткага заробку.

**(24.08. — 23.09.)** Месячны план рэалізуй дакладна. Выходзь з хаты, усміхайся. Маніпуруй развоі сітуацыі сярод сяброў і дома. Цяжка будзе змабілізавацца да працы, часам твае аргументы трапяць як куляй у плот. Дзевы на сваім могуць 15-18.11. выкарыстаць слабасць канкурэнцыі, дасягнуць большых уплываў на рынку. Але з 15.11. (да 25.11.), магчыма, што будзеш высільвацца для няварaтай таго справы.

**(24.09. — 23.10.)** Дагаворышся з кожным і пераканаеш яго, атрымаеш падтрымку. Хаця можаш канфліктаваць з некаторымі сваякамі, канчаткова гэта яны будуць стратнымі. Пакажаш свой іншы твар, умела будзеш бараніць сваю думку, крытыкаваць; вядома, што даведзе гэта да спрэчак. 15-17.11. могуць заляцець у тваю галаву задумы, як перамагчы цяжкасці. З 17.11. сітуацыя можа прымусіць цябе да цяжкага рашэння.

**(24.10. — 22.11.)** Не мяняй свайго курсу да 15.11., а пасля (да 25.11.) старайся на наступіць на мазоль мацнейшаму ад сябе. З 12.11. усміхацца будзе да цябе Венера, змяшчаючы цябе высока ў рэйтынгу на папулярнасць. Магчымая канкурэнцыя, але свае слабасці пераку-еш у перамогі. Не пападай толькі ў крайнасці! Дазволь сябе высвятаць (з 17.11.) — не пашкадуеш! Адмаўляйся ад салодкага.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш мець аргументы ў дыскусіі і энергію для рэалізацыі мэт, таксама нагоды для падарожжаў. Афармляй усе справы, калі твае просьбы акрасіш усмешкай. Адзавуцца сваякі, пакарыстайся запрашэннямі. 15-17.11. перастанеш думаць аб кімсьці, хто гэтага нявартi. Але можа аказацца, што не хопіць табе сілы на змаганне з ворагам (да 25.11.). Форма слабейшая, хадзі часцей на свежым паветры.

**(23.12. — 20.01.)** У шэрую рэальнасць уведзеш каляровыя акцэнты. Асабістая папулярнасць. Хтосьці не адобрыць тваіх планаў, але не дай сабе выбіць іх з галавы. Можаш вярнуцца да заданняў, пакінутых у папярэднія тыдні, давядзеш іх да канца. З 15.11. (да 25.11.) магчымыя абмежаванні і невыгоды.

**(21.01. — 19.02.)** Аптымізм, энергія, сустрэчы з людзьмі, вучоба, падарожжы. Венера паможа паправіць твае памылкі (ці прызнаешся да іх?). З 15.11. могуць выслаць цябе ў глыбіню. У фінансах хуткія рашэнні пойдуць табе к дабру, але будзь разважлівым. Еж вітаміны, таксама ў таблетках.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш схільны раздзіраць свае старыя раны. Кінь гэта! Павальнейшая работа. Але будуць мілыя сустрэчы з файнымі людзьмі. У пачуццях услухайся ў інтуіцыю. Дома займайся тым, што прыемнае. Рыба з другой дэкады: не вырашай важнага і не падпісвай дамоваў 16-20.11. 17-19.11. хтосьці схоча выцягнуць ад цябе важныя інфармацыі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

1. раённы горад між Магілёвам і Крычавам, 2. войска ў межах мясцовасці, 3. прозвішча аўтара „Альпійскай балады", 4. апавяданне аб праўдзівым здарэнні, 5. паўднёвая суседка тундры, 6. бык, 7. працэс апісваны дзеясловам, 8. лыч, 9. бег каня наўскач, 10. насякомае з дзвюма парамі рознаколерных крылаў з... матам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | 2 | | | | |
| | 3 | | | 4 | | | | | 5 | |
| | | | 6 | | 7 | | | | | |
| | | 8 | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | 10 | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Ака, дзік, кіргіз, ніць, пот, пушча, рысь, хота, цюк, юнга.

Рашэнне: **Кастрычнік ходзіць па краю і гоніць птушак з гаю**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 200 egz.

— Чаму Невір? — мяркуе Раіса Крат, — верагодна, гэта ад ваўка.

— Ад ваўка?

— Так, ад ваўка. Хаця ў нас герб з *буськом*, — дадае спадарыня Раіса. — Праўда, герб з буслам мастацкі, ён не адносіцца да старых легенд.

Звестка займае дых. У галаве мутна, быццам хто скалаціў ваду на Прыпяці. Не, няма тут для мяне нечаканасці. Ад пачатку шукаю нашчадкаў неўраў, пра якіх пакідае сенсацыйную занатоўку Герадот у сваіх „Дзеях”. Мне проста не верыцца, што існуе яшчэ такі *воўчы* Невір. Што ступаю нагой, наступаю на старажытны, пісьмовы след. Для мяне гэта магія чыстай вады. Ужо першы сказ шмат паясніў, рассакрэціў!

Герадот наведаў скіфскую зямлю ў чацвёртым стагоддзі да нашай эры. Сярод іншых народаў называе неўраў. Ён піша: *У неўраў скіфскія звычаі. На адно пакаленне да паходу Дарыя* (паход персідскага цара Дарыя на скіфаў пачаўся ў 514 г. да н.э. — Г.К.) *сустрэла іх такое няшчасце, што яны былі вымушаны пакінуць свой край з-за вялікай плягі гадзюк. Мала, што ў іх уласнай краіне намножылася гадзюк, дык яшчэ процьма іх прыпаўзла з пустынных краін, што знаходзяцца на гары, і тады неўры, даведзеныя да адчаю, пакінулі сваю айчыну і неяк прыжыліся ў будынаў. Гэтыя неўры* — піша Герадот, — *здаюцца чарадзеямі. Скіфы і пражываючыя ў Скіфіі грэкі, апавядаюць пра іх, што заўсёды, раз у год, кожны неўр на некалькі дзён перакідаецца ў ваўка, пасля чаго зноў вяртаецца да ранейшага выгляду. Я папраўдзе ў іх байкі не веру*, — адзначае старажытны падарожнік, — *аднак яны так цвердзяць і прысягаюць...*

Раіса Крат не патрабуе вяртацца да часоў Герадота, каб думаць пра ваўкоў і чарадзеяў. Мясцовыя людзі маюць такія веды ў крыві, беручы пад увагу чароўныя акалічнасці прыроды. Невір, да сямідзясятых гадоў, пакуль тут не праклалі дарог, быў адрэзаны ад свету. Сяло над Прыпяццю сцераглі непраходныя балоты і лес поўны дзікай звярыны. Чаго тут толькі не было: ласі, дзікі, гарнастаі, казулі, ваўкі, а раней зубры і мядзведзі. Іх мясцовасць узяла назоў ад ваўка, іх было найболей. А воўк — мудрая штука. Не пойдзе рабіць шкоду там, дзе яго логава. Вось і назвалі, каб воўк не рабіў шкоды ў *сваім* сяле. Просты, магічны абярэг.

— Ёсць яшчэ і такая легенда, — дадае спадарыня Крат: — У Вялікай Глушы, што за балотам, жыў люты пан. Калі каму абрыдла панская няволя, ён збягаў за балоты, да нас. Тут ніхто не запускаўся з пагоняй. Пан называў уцекачоў *няверныміі людзьмі*, адтуль нібыта пайшоў і Невір...

У апошняй легендзе, хай і просценькай, адчувалася рэха перасялення, выкліканага прыкрымі абставінамі, штосьці як пляга гадзюк, пра якія піша Герадот.

Як мяркуюць даследчыкі, айчынай неўраў маглі быць Валынь і Падолле. Яны самі, верагодна, выводзіліся ад славян. Вось, такая інтрыгуючая згадка пра братоў-аднаплеменцаў.

* * *

У Невір прыехала я на аўтобусе проста з Любашова. Тут, напрыканцы сяла, дзе канчаўся рэйс, дарогу перасякаў шлагбаўм. Паўтара года назад, калі пачалася вайна з Расеяй, у гэтым месцы сталі танкі. З Невіра 37 кіламетраў у Брэст. Мяжа з Беларусю ідзе непрыкметна па возеры Белае, тры кіламетры за вёскай. Сяло ляжыць на левым баку Прыпяці і з-за гэтага здаецца, што яно яшчэ бліжэй Беларусі.

Праз момант хістаюся, ці не ад'ехаць аўтобусам назад? Наступны — за восем гадзін. На двары 34 градусы жары. Цішыня і бязлюддзе на вуліцы. Ці хопіць на ўсё сілы, шчасця? Але ногі нясуць у першы прыадкрыты будынак. Гэта вясковы клуб. У бакоўцы сціплая крама. Там сустракаю Руслану Міхайлаўну, якая робіць пакупкі.

— Ці ў сяле ёсць чалавек, які распавядзе пра Невір? — пытаю.

— Вы добра папалі, — чую ў адказ. — Наша дырэктарка даследавала гісторыю сяла, яна ўсё раскажа.

# У палескай глыбінцы (61)



■ Руслана Міхайлаўна і Раіса Васільеўна

Руслана Міхайлаўна — намеснік дырэктара школы. У сяле яе сям'ю называюць *беларусамі*. Гэта таму, што продкі з суседняга Радастова, якое зараз у Беларусі.

Жанчына дамаўляецца праз сваю мабілку з дырэктар Раісай Крат. Абяцае, што асабіста завядзе мяне ў кабінет. Адчуваю ўдзячнасць за бескарысную дапамогу. Хачу неяк прыдабрыцца.

— Я — Ганна, — прадстаўляюся на хаду.

— Я таксама Ганна, — кажа Руслана.

— Як, гэта? Вы ж Руслана!

— Па-царкоўнаму я Ганна, так ахрышчана. Русланай нельга хрысціць у царкве. Няма такога імя ў спіску.

Мая субяседніца вядзе заняткі па рэлігіі. Гэта агульныя веды пра хрысціянства для праваслаўных, пяцідзясятнікаў, баптыстаў. У сяле такая разнавіднасць.





— Каб моладзь нечым займалася, менш співалася, — у голасе Русланы Міхайлаўны адчуваю заклапочанасць, — шкада іх астаўляць адных.

— П'юць ад страху перад вайной? — пытаю.

— Хутчэй перад тым, што нічога не адбудзецца ў іх жыцці, — кажа з нотай безнадзейнасці ў голасе. — Няма ў нас працы для маладых. Той, хто можа, з'язджае падзарабіць за мяжу. А гэта каштуе шмат захадаў, грошай і нерваў.

Будынак школы і пляцоўка знаходзяцца на месцы, дзе калісь стаяла царква. Узарвалі яе чырвонаармейцы. Зараз у гэтым месцы газон і *кяты* — так пра кветкі кажуць у Невіры. Там чакае ўжо спадарыня Крат. Прыйшла басанож, проста з агарода. З выгляду напамінае статную Ангелу Меркель...

Кажа, што ў Невіры, апрача мясцовых, вялікую ролю адыгрывалі яшчэ тры нацыі: немцы, палякі, жыды. Немцы і палякі мелі свае *калёніі*. Іх хутары лічыліся ўзорам гаспадарання. Найбольш вабілі іхнія сады. Пасля вайны людзі перасадзілі ўсе яблыні і грушы з панскіх садоў. Адкуль у яе нямецкае прозвішча? Не ведае, згубілася памяць. Яе дзед, які пры палякаx быў солтысам, лічыўся першым пчаляром у наваколлі. Трымаў шмат пасек. Яму заўсёды шанцавала. Калі паміраў, сям'я дапытвалася:

— Што вы такога ведаеце? Рассакрэцьце, не забірайце ў магілу!

У Невіры ведалі як прычараваць на поспех. А пчалаводства — справа амаль магічная. Трэба штосьць *ведаць*, каб шанцавала, вялося. Паміраючы дзед, вядома, прызнаўся да свайго „вядунства”, — спадарыня Раіса смяецца, калі прыгадвае сцэну. Яна сама не верыць у падобныя чары і практыкі, як яе дзед. Ён паглядзеў на родных і, паміраючы, выказаў ім свой вялікі сакрэт:

— *Каб была ўдача ў гаспадарцы, трэба цяжка працаваць і шчыра маліцца!*

* * *

Раіса Крат звыклася ўжо, што ў Невір прыязджаюць этнографы і фалькларысты, пытаюць пра таемныя практыкі. Яна сама шмат запісала ад роднай бабкі Ярынкі.

— *Мая баба Ярынка робіла добрэ*, — адзначае, — да яе прыходзілі людзі, калі ў іх плакалі дзеці, калі каму балела спіна, калі хто падарвецца пры цяжкай працы. Вось ад падрыву шаптала такую замову:

Матіцэ, сэстрыца,
Стань на містэчко,
Золотое крэсэлэчко,
Стань собіэ на порыэ,
Як ясны місец на горыэ.

Баба Ярынка ведала замовы як *адводзіць* пажар, як прагнаць урокі і пералёкі. Часам дапамагала адчыняць накінутую *наведу*. У Невіры шмат людзей рабіла зло. Па сённяшні дзень з дрыжыкамі на спіне ўспамінаюць дзеда Флярка. Ён звычайна сядзеў ля крыжоў, нешта шаптаў, кудысьці глядзеў. Аднойчы побач праходзіла дзеўка, якая спяшала на поле да ільну. На прывітанне кінула: *Будзьце здаровы!* Але адразу дрэнна сябе адчула. У полі не дала рады працаваць. Рукі адмовілі, самлелі. Ледзь прывалаклася з поля дахаты. Расхварэлася. Цягам наступных дзён стала сохнуць у вачах. Не дапамагалі малітвы, замовы. Нішто не дапамагала. Дзяўчына гасла, памірала. Тады яе бацька выправіўся да Флярка, каб ён адчыніў *наведу*. Той спачатку не хацеў слухаць, прыкідваўся глухім. Бацька ўпаў да ног, прасіў змілавання, абяцаў шчодра аддзячыць. У канцы Флярко аб'явіў жэстам дараванне. На адыход ён прыказаў бацьку: — *То хай знае, як трэба старэйшым кланяцца!*

— Аказваецца, — цягне Раіса Крат, — дзяўчына не пакланілася яму як трэба. Недастаткова нізка пакланілася...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960